# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 44 (306) 8 — 14 лістапада 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ





80 ОКТЯБРЬ

вуліца СВЯРДЛОВА

вуліца К. МАРКСА 80

80 вуліца КАЛІНІНА

80 16 вул. КАЛІНІНА

КАСТРЫЧНІЦКАЯ

80 вуліца УЛЬЯНАЎСКАЯ

вуліца МЯСНІКОВА

вуліца ЛЕНІНА

вуліца ЧЫЧЭРЫНА 80

80 80

ОКТЯБРЬСКАЯ

вуліца КАМУНІСТЫЧНАЯ

вуліца ЭНГЕЛЬСА

80 вуліца МЯРЖЫНСКАГА

80 ПЛОШЧА ЛЕНІНА

МПС СССР
МИНСКИЙ МЕТРОПОЛИТЕН
СТАНЦИЯ
ПЛОЩАДЬ ЛЕНИНА

вуліца РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ

вуліца САВЕЦКАЯ

вуліца КУЙБЫШАВА

## РЭВАЛЮЦЫЯ Ў "ІНТЭР'ЕРЫ" СТАЛІЦЫ.

ГОД 1997-Ы

1917 • 1917 • 1917

# "ШТУРМ" ПАЛАЦА НА КАСТРЫЧНІЦКАЙ ПЛОШЧЫ

***У цэнтры Мінска нараджаецца беларускі цуд — Палац Рэспублікі. У народзе пра гэты будынак ужо існуюць легенды — і нездарма, бо пачаў ён расці больш за дванаццаць гадоў таму. Пры камуністах нараджаліся паднябесныя праекты. Падобныя палацы будаваліся ў розных месцах былога Савецкага Саюза — Маскве, Алма-Аце, Кішынёве, Ташкенце, Кіеве і іншых гарадах. Несумненна сёння адно — Палац Рэспублікі трэба дабудаваць і як мага хутчэй. Набліжаецца новае тысячагоддзе, і будзе крыўдна сустракаць яго з незавершаным сімвалам дзяржавы. Вядома, што гэты аб'ект планавалася запусціць у эксплуатацыю... у 1992 годзе. Сёння няма сэнсу пытацца, ці варта было наогул праектаваць гэты палац. Бо бюджэт у нас не гумовы, і грошы падаткаплацельшчыкаў можна было пусціць на іншыя праекты. Але ж з набыццём нашай краінай незалежнасці мы атрымалі і гэты недабудаваны фантастычны палац. Наколькі я ведаю, многія былі незадаволены і выбраным пад "сімвал" месцам, бо давялося знішчыць адзін старасвецкі будынак і спілаваць такія прыгожыя прысады ўжо вялікіх вязаў, ліп і каштанаў. Я, як прыхільнік рэвалюцыйнасці ў мастацтве, не пагаджаюся з існуючым меркаваннем, што і сам праект Міхаіла Пірагова зусім няўдалы. На маю думку, наадварот, гэты шматпавярховы гмах з жалеза, бетона і шкла з'яўляецца сапраўдным цудам. Хочацца гуляць ля яго з прыгожай дзяўчынай і голасна чытаць Уладзіміра Маякоўскага альбо нашых беларускіх паэтаў новай генерацыі.***

***Як вядзецца сёння будоўля Палаца Рэспублікі і якія пры гэтым узнікаюць праблемы, — з гэтымі і іншымі пытаннямі я звярнуўся да начальніка Упраўлення капітальнага будаўніцтва Івана ТУРАВА.***



**— Наколькі я ведаю, вы з'яўляецеся непасрэдным заказчыкам будаўніцтва Палаца Рэспублікі? Калі вы маркуеце запусціць яго ў эксплуатацыю?**

— Распараджэннем прэзідэнта нашай краіны ў канцы мінулага года аператыўнае ўпраўленне дырэкцыяй па будаўніцтве Палаца Рэспублікі перададзена Мінскаму гарвыканкаму. А ён, у сваю чаргу, перадаў нам функцыю кантролю над будоўляй і дазвол распараджацца фінансавымі сродкамі, што паступаюць з рэспубліканскага бюджэту для Палаца Рэспублікі. Але ў любым выпадку гэта — дзяржаўная ўласнасць. Бо на будаўніцтва сродкі паступаюць толькі бюджэтныя. Уводзіць палац у эксплуатацыю думаем па частках: першая — ужо сёння. Гэта аб'екты інжынернага забеспячэння і службовыя памяшканні. Гэткая схема будаўніцтва выбрана, каб неяк спрасціць запуск усяго комплексу. Цяпер даволі актыўна стварэцца дырэкцыя па эксплуатацыі будынка. Я думаю, у бліжэйшы час гэта пытанне будзе цалкам вырашанае. Да прыкладу, дырэктар па эксплуатацыі палаца ўжо вызначаны — Аляксандр Казак. Другую частку палаца маркуем запусціць у эксплуатацыю ў наступным годзе. Гэта — зала на 500 месцаў, розныя дробныя памяшканні, зала для прэс-канферэнцый на 200 месцаў.

Працы, канечне, яшчэ вельмі шмат. Бо самае складанае ў будаўніцтве — апошні этап. Доўга ўзводзіцца палац, і таму патрабуецца шмат што карэктаваць. Неразумна прымяняць абсталяванне, якое распрацоўвалася дзесяць гадоў таму — яно



*Вуліца*

# "КУПИ КИРПИЧ"

***Я** дасюль не магу забыцца, як аднойчы, вяртаючыся з працы, на тралейбусным прыпынку "Вуліца Зімняя" ўбачыў на бардзюры чалавека з нажом у жываце, які спрабаваў выцягнуць лязо сваімі акрываўленымі рукамі. Побач стаяў яго збялелы сябра, які ў ступары не мог зрабіць і кроку. Я набраў "03"...*

***Ці не страшна вам позна вечарам аднаму вяртацца дадому? Ці вы ні разу не адчувалі, як сціскаецца сэрца, калі насустрач вам па пустым цёмным завулку ідзе, трошкі пахістваючыся з боку ў бок, кампанія незнаёмых хлапцоў?***

***Безумоўна, Беларусь — не Расія і, тым больш, не Калумбія, Мінск не Масква ці Багата. На вуліцах нашай сталіцы не адбываюцца мафіёзныя разборкі, не снуюдаюць юрлівыя і небяспечныя чародкі "піраньяў" — бяздомных падлеткаў. Але ж маецца інфармацыя, што на чатырнаццаць судмедэкспертаў, якія штодня дзяжураць па Мінску, прыходзіцца ў дзень два-тры нябожчыкі, і доля гвалтоўнай смерці дасягае дваццаці працэнтаў ад агульнай колькасці смяротных выпадкаў. А колькі людзей церпяць фізічную і маральную знявагу на вуліцах сталіцы ад іншых асобаў чалавечага роду?***

***Не будзем закранаць праблему зламысных злачынстваў, бо як падказвае этымалогія, ёсць спецыяльна разлічанае (адмысловае) злачыннае дзеянне дзеля дасягнення пэўных мэтаў. Пра гэта гаворка павінна ісці ў псіхалагічных даследаваннях, што вывучаюць уздзеянне варункаў жыцця і знешніх абставін на чалавека, часам высокаадукаванага і выхаванага, які свядома рашыўся пераступіць мяжу дазволенага. Таксама не будзем закранаць праблему так званых перыядычных злачынстваў, бо гэта ўжо сфера псіхіятрыі. Нас цікавіць — адкуль бяруцца тыя выбухі "вулічнай агрэсіўнасці", якая апаноўвае пэўныя групоўкі маладых людзей.***

### ХВІЛІНА КЛІНІЧНАЙ СМЕРЦІ

Супрацоўнік нашай газеты Мікола Адам 9 кастрычніка каля 11 гадзін вечара выняў з дзвярэй кватэры, дзе ён здымаў пакой, запіску ад гаспадара:"Буду каля 12.00, пачакай". У Міколы не было ключа, таму ён спусціўся па лесвіцы і сеў на лаўку каля пад'езда. Закурыў. Раптам святло на ўсім двары адключылася, і штосьці цяжкое абрынулася яму на галаву. (Як высветлілася ў ходзе следства — гэта была цагліна.) Ён упаў, і тры цёмныя постаці, выскачыўшы з-за кустоў, пачалі збіваць яго. Білі метадычна, смакуючы кожны ўдар. Але ўсё ж такі напаўкантужаны Мікола здолеў перакаціцца, падняцца і расштурхаць нападаючых. Як ён помніць, яны былі коратка падстрыжаныя, у спартыўнай вопратцы. Пасля, ён памятае, што міліцыянеры станцыі метро "Трактарны завод", куды яго, усяго скрываўленага, прывёз апошні 21-ы аўтобус, выклікалі яму "хуткую", і ў тры гадзіны ночы нейрахірург 9 клінічнай бальніцы Віктар Шкодзік апераваў Міколу, выроўніваў змешчаны пералом чэрапа. Лекары сцвярджаюць, што малады хлопец, студэнт філфака Мікола Адам, стыпендыят Прэзідэнцкага фонду падтрымкі маладых дараванняў як таленавіты паэт, цэлую хвіліну знаходзіўся ў стане клінічнай смерці. Калі б спазнілася "хуткая" ці не прыйшоў апошні "21-ы" — і ўсё, чалавека не было б.

Хто? Завошта? Пытанні застаюцца адкрытымі. Маецца толькі фотаробат аднаго з трох злачынцаў, які склалі следчыя. Матывы зусім не зразумелыя. Што можна было патрабаваць, рабаваць у студэнта, які прыехаў з вёскі і плаціць за кватэру распложваюцца, у асноўным, па дамоўленасці з гаспадаром прадуктамі. Жорсткая помста? Сам Мікола кажа, што ворагаў у яго не было і ўсе "напятыя сітуацыі", якія зрэдчас у маладым узросце ўзнікаюць у кожнага, былі даўно высветленыя і забытыя. Зайздрасць?.. А магчыма ён быў чужы для таго гарадскога асяроддзя, для тых "дзябёлых" дзецюкоў, што былі побач з ім у адным "раёне"? Цалкам верагодна, што ён іх проста не заўважаў, але яны яго часта прыкмячалі, бо надта ж ён, як любы не тутэйшы, не ўпісваўся ў агульную масу і тым самым раздражняў іх атавістычны інстынкт аховы сваёй тэрыторыі ад чужога.

### КАМЕНЬ — ЗБРОЯ ГОПНІКА

Улетку гэтага года падобны выпадак здарыўся з маладым журналістам Іллёй Свірыным. Пасля чарговага задання рэдакцыі ён вяртаўся позна дамоў. Да яго "прысталі" тры чалавекі са звычайным наборам слоў. "Эй, иди сюда, кто ты!" Пасля павінна ісці просьба-пагроза "Дай закурыць!" Падобны набор у свой адрас тыдзень таму пачуў аўтар гэтага артыкула ў Браславе, дзе быў у дылектычнай экспедыцыі.

— Гэй ты, з торбай, топай сюды!

Але цёмных постацей было толькі дзве і не надта ўнушальная выгляду. На наўмысна нізкі мой барытон у адказ: "Чуеш, няма часу", — яны проста рэціраваліся.

Іллі Свірыну цёмныя постаці перакрылі дарогу. І пасля колькіх фраз, завязалася бойка. Сілы былі няроўныя. Але журналіст аказаў вартае сваёй прафесіі супраціўленне. Адступаючы, вулічныя хуліганы нечакана, нават для саміх сябе, пачалі кідацца камянямі.

Пасля Ілля, увесь у сіняках і гузаках, распавядаў, што кароткастрыжаным хлапцам было ўсё роўна, хто перад імі, што ён тут робіць, чым займаецца. Журналіст — не журналіст, абы варушыўся і ўскрыкваў ад трапных моцных удараў.

— У гопнікаў рукі часаліся, — падвынікаваў Ілля.

А хто яны самі, адкуль, які род дзейнасці, — так і засталося невядома, яны раслі ў безаблічнасці.

### "ДРУЖБА" — КІНАТЭАТР У ЧЫЖОЎЦЫ"

Слова "гопнік" стала ўжывацца ў сваім цяперашнім значэнні даволі нядаўна. Магчыма, яно пайшло ад авеянага своеасаблівай рамантычнай славай злодзейскага клічу "Гоп-стоп", з якім ліхія хлопцы патрашылі кішэні сполоханай, аслепленай выглядам ляза фінкі ахвяры.



Мікола Адам.

Гопнікі, у сучасным значэнні гэтага слова, — вулічныя бічуганы, агрэсіўнасць якіх не мае пэўных мэтаў, акрамя дэманстрацыі самой агрэсіўнасці. І трэба сказаць, што на вуліцах Мінска гопнікі ніколі не пераводзіліся.

У часы Савецкага Саюза Мінск быў падзелены на "раёны", якія мелі свае назвы-мянушкі, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне. "Раёны", гэтак складваліся гістарычна, ці варагавалі ці сябравалі паміж сабой. Напрыклад, яшчэ гадоў дзесяць таму "Абісінія" (раён вуліцы Пуліхава) варагавала са "Старажоўкай" (раён вуліцы Старажоўскай). Пра вялікія махачы (бойкі) — сценка на сценку — у парку імя Горкага дагэтуль хадзілі легенды. Кожны "раён" меў сваю сферу ўплыву (тэрыторыю горада) і свята ахоўваў ад прыхадняў. А выконвалі гэтую спадчынную місію бічуганы, якія жылі на гэтым участку. Бывала, што кожны вечар рабіліся спецыяльныя рэйды па тэрыторыі "раёна" з мэтай выяўлення чужакоў. Грозны запыт "Ты з якога раёна?" жахаў маладых прахожых. І не дай Бог, калі яны не ведалі назву свайго "раёна" альбо жылі ў "раёне" не вельмі прыязным да тых, хто запытваў. Увогуле па некаторых прахадных дварах было небяспечна хадзіць у любы час сутак. У альтанках сядзелі бічуганы, гулялі ў карты, ці проста "базлалі" (лясы тачылі) і чакалі, хто пройдзе. На "раёне" "Квадрат" (раён плошчы Перамогі) у сярэдзіне 70-х гадоў славіўся двор "Дзевятка". Называўся ён гэтак таму, што ён быў каля дома № 9 па вуліцы Захарава. Людзі, якія ішлі з вуліцы Чырвонай да плошчы Перамогі, часта, каб не абыходзіць дом, "зразалі вугал" і заходзілі ў двор. Калі гэта быў малады хлопец, да яго падыходзілі бічуганы і прапаноўвалі купіць "пепельницу" — сметніцу, што стаяла каля ўвахода ў двор. І паспрабуй адмовіцца! Цэлы не будзеш. Дый мала таго, што заплоціш грошы, якія патрабуюць хуліганы, прыходзілася цягнуць пад свіст і ўлюлюканне чыгунную цяжкую сметніцу да выйсця з двара. Мода на "купи пепельницу" і "купи кирпич" адзін час была ледзь не "павальнай" ва ўсіх раёнах.

Таксама вельмі любілі тагачасныя гопнікі валэндацца каля кінатэатраў, дыскатэк, дзе працэнт верагоднасці злавіць чужака і паздзекавацца з яго быў больш высокі. Нават, як у адказ на школьнае сачыненне па тэме "Што такое дружба", хадзіла прымаўка — "Дружба — гэта кінатэатр у Чыжоўцы". А Чыжоўка славілася па ўсім горадзе як дзікі "раён", куды хадзіць на дыскатэку ці ў кіно без знаёмых праважатых было ледзь не самагубствам.

ж састарэла. Таму мы шукаем шляхі вырашэння гэткай праблемы. Трэцюю і апошнюю частку комплексу мы мяркуем здаць у 1999 годзе. Гэта галоўная зала на 2700 месцаў, фае, банкетныя залы... Калі будзе фінансаванне, дык мы выканаем распараджэнне. У скрайнім выпадку здача будынка адсунецца на 2000 год. Будаўніча-мантажныя працы амаль усе скончаны, але хапае працы па аздабленні, не закуплена шмат якое абсталяванне. Сёлета мы атрымалі на будоўлю палаца 95 мільярдаў рублёў, пасля яшчэ дадаткова — 65. Да наступнага года ўсе выдаткаваныя сродкі мы скарыстаем. Думаю, нават спатрэбіцца прасіць яшчэ 15 — 20 мільярдаў рублёў.

**— Іван Канстанцінавіч, а колькі да гэтага было затрачана грошай на будоўлю Палаца Рэспублікі?**

— Па стане на 1 студзеня 1997 скарыстана 58 мільярдаў рублёў.

Заказчык будаўніцтва, фактычна, увесь час адзін. Бо і раней галоўным заказчыкам быў Мінгарвыканкам. Калі мы здадзім аб'ект у эксплуатацыю, дык галоўным арандатарам асноўных фондаў будзе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

**— Распавядзіце, калі ласка, больш падрабязна, як будуць скарыстоўвацца памяшканні ў будынку?**

— Як я ўжо казаў, асноўная зала палаца разлічана на 2700 месцаў. Там цудоўная сцэна, багатае сцэнічнае абсталяванне. Гэта адна з лепшых залаў у былым Савецкім Саюзе. Спецыялісты кажуць, што сцэна па тэхнічных магчымасцях лепш, чым у Палацы з'ездаў у Маскве. Зала на 500 месцаў можа быць прыстасавана для выступаў тэатраў. Будуць тут і ўсялякія кавярні, бары, більярдныя, прэс-цэнтры і гэтак далей. Ніякіх падземных памяшканняў, што рабілі ў "савецкія часы", да прыкладу, бомбасховішчаў, тут няма.

**— А з якімі яшчэ складанасцямі вы сутыкаецеся, акрамя грашовых?**

— Мы займаемся самым цяжкім этапам будаўніцтва — заключным. Цяпер вельмі важна прымаць правільныя рашэнні. Якім будзе асвятленне, як аздобіць залы? Да прыкладу, мы ўжо маем гатовыя лямпы для сцэны. Да іх трэба падабраць адпаведныя фатэлі. Вельмі непакоіць запуск інжынернага блока. Бо там вялікая падстанцыя, цеплавыя пункты, электрычная сетка, насосы, сістэмы пажаратушэння, сігналізацыі. Шукаем, дзе набыць шэсць эскалатараў, інфармацыю аб гэтым мы далі ў Internet. І ўжо з'явіліся цікавыя прапановы. Для закупкі эскалатараў дзяржава выдаткавала валюту. Зманціравана сістэма пылавыдалення. Для яе запуску толькі няма асноўнай машыны, а шкілеты — трубаправоды — ужо стаяць.

**— Іван Канстанцінавіч, які на ваш погляд, ці апраўданы сёння гэткія затраты на будоўлю?**

— Так. Людзі заўсёды павінны імкнуцца да прыгожага. Тым больш Палац Рэспублікі — сімвал нашай краіны, нашай дзяржавы.

**Гутарыў Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

*Лісты ў рэдакцыю*

# МІНУС — РЭКЕЦІРЫ, ПЛЮС — 1,5 МІЛЬЁНА

Гэты невялікі артыкул — выказванне ўдзячнасці і павагі. Удзячнасці тым, хто ў наш "няпэўны" час здолеў наладзіць для людзей рацыянальны сутачны адпачынак (прынамсі, для тых трыццаці двух чалавек, якія былі ў апошні дзень лета маімі спадарожнікамі). Адпачынак таму, што мы сапраўды адпачылі ў атмасферы сервісу і клопату, а рацыянальны таму, што адначасова мы ехалі з Беларусі ў Германію.

"Не трэба ехаць аўтобусам! — казалі мне дасведчаныя людзі. — Па-першае, у Польшчы аўтобусы спыняюць рэкеціры; па-другое, у аўтобусе цяжка спаць; патрэцяе, у цягніку ты маеш аднаго суседа, максімум — дваіх, а тут — пяцьдзесят... І страшна, і няўтульна, а ехаць тыя ж 24 гадзіны". Што і казаць, меркаванні слушныя, але для мяне, у дадзеным выпадку, на першым месцы быў кошт праезду — на сто марак меней, чым на цягніку. І я наважыўся. Можа, пашчасціць не натрапіць на тых рэкеціраў? Ды і што з мяне ўзяць?

Набыў білет і ў 12.00 прыйшоў у Мінску на Усходні аўтавакзал. Першае, што прыемна здзівіла мяне, чалавека, які шмат пападарожнічаў у сваім пісьменніцка-журналісцкім жыцці, шафёр (у белай кашулі і пры гальштуку) "адабраў" у мяне важкую валізку (гэта былі кнігі і частка майго архіва) і сам усталяваў яе ў багажніку. Пра аўтобус я ўжо і не кажу: бельгійская прыгажуня-машына, пасажыры — на другім паверсе, экіпаж складаецца з трох кіроўцаў, багаж, кухня, туалет, — на першым. Два тэлевізары — па адным на кожную палову аўтобуса. Відэафільмы — згодна з пажаданнямі пасажыраў. Утульныя "самалётныя" фатэлі "адкідваюцца" на тры чвэрці. І што мяне канчаткова "дабіла" яшчэ да паездкі — бялюткія падгалоўнікі, сапраўды аднаразовага выкарыстання.

Ужо ў дарозе ад суседа-гамяльчаніна я даведаўся, што шэф фірмы "Becker — Brauns" пачынаў на Беларусі з дабрачыннай чарнобыльскай дзейнасці і, пераканаўшыся ў неабходнасці такога маршруту менавіта з Гомеля, адкрыў рэйс ад гэтага гаротнага беларускага горада праз усю Германію да Гамбурга. Першыя рэйсы ён сам сядзеў за рулём.

Тры шафёры — ветлівыя і акуратныя — не проста забяспечвалі пасажырам сучаснае абслугоўванне, — яны стварылі ў аўтобусе атмасферу хатняй утульнасці. Час ад часу вам прапаноўвалася паесці, выпіць піва, колу, фанту (з лядоўні), гарачую каву (самую свежую)...

Аказваецца, на мяжы рэйсавыя пасажырскія аўтобусы прапускаюць па-за чаргой. На мытні я растлумачыў шафёру, што мне з прычыны стану здароўя цяжка несці валізку ў залу, дзе робіцца агляд рэчаў. Той паразмаўляў з мытнікам і... мой багаж праверылі ў аўтобусе. (У Брэмене той жа шафёр сам дастаў маю валізку з багажніка і... дапамог данесці да трамвайнага прыпынку.) Кароткія прыпынкі падчас паездкі былі лёгкімі і не стамлялі. Людзі не пачуваліся пасажырамі — яны былі нібыта турыстамі. Ды так яно і было на самай справе: ехалі праз дзве краіны і пабачылі шмат цікавага.

Калі вы прачыталі тое, што я напісаў, дык, пэўна, ужо здагадаліся, чаму я пішу гэтыя словы ўдзячнасці. І апошняе: рэкеціраў нам так і не давялося пабачыць. "Я працую ўжо год — ніводнага разу", — сказаў мне "мой" кіроўца.

Хай даруюць мне "Белавія" і "Lufthansa", а таксама чыгунка і мае знаёмыя. Але я прапаную ўсім выпрабаваны спосаб пераезду з Беларусі ў Германію і назад: аўтобусамі ад "Becker — Brauns"!

Карысна нагадаць, што на гэтым эканомяцца такія дарагія цяпер 1,5 мільёна рублёў для беларуса і сто марак — для немца. А яшчэ такое стаўленне робіць дадатковы ўнёсак павагі беларусаў да немцаў.

**Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі**
**Навум ЦЫПІС**
*Мінск — Брэмен*

Бывала, што вялікія кагалы з аднаго "раёна" знянацку наведваліся на "дыскач" альбо "кіношку" ў другі, варожы "раён". Тады тым, хто трапляўся пад руку, было не здабраваць. Гэтак у пятнаццаць гадоў аўтар гэтага артыкула і яшчэ яго два сябры, жыхары "Квадрата", каля палаца Белсаўпрофа былі збітыя ажна дваццаццю чалавекамі з "Бульвара" (раён бульвара Шаўчэнкі). Адзін сябар атрымаў гэткі ўдар пырам у патыліцу (бо ўжо ляжаў на асфальце), што напоўніцу забыў усё, што з ім адбывалася менавіта ў гэты дзень.

Нягледзячы на татальны кантроль за чалавекам у часы Савецкага Саюза — школа і міліцыя маглі ўмешвацца ў прыватнае жыццё чалавека, — на вуліцах Мінска ішла перманентная вайна паміж "раёнамі", у якой тагачасныя гопнікі змагаліся з іншымі гопнікамі, а паміж "вайсковымі дзеяннямі" білі ўсіх астатніх.

### СУЧАСНАСЦЬ

Як ні парадаксальна, усе спартыўныя спаборніцтвы накшталт "Залатой шайбы" ці "Скуранога мяча", якія арганізоўваліся мясцовымі ўладамі пад усемагчымымі высакароднымі дэвізамі і якія сапраўды вельмі любілі ўсе "ад мала да вяліка", правакавалі пасляматчавыя бойкі — прайграўшыя ў спорце адыгрываліся кулакамі. А вось рок-канцэрты, якія былі не ў фаворы ў Савецкім Саюзе і лічыліся крамольнымі, змаглі загасіць "раённыя войны". Кардынальна змянілася аблічча моладзі. Яно стала не "раённым", а "тусовачным". Маладыя людзі ўжо арганізоўваюцца не па тэрытарыяльнай прыкмеце, а па інтэлектуальнагустоўнай. Каму падабаецца класічны рок, стварае сваю тусоўку, каму рэп — сваю, а тыя і тыя, напрыклад, любяць ролікі. Межы размываюцца, не застаецца нагоды для агрэсіі, дый і цікавасць да творчасці сваіх куміраў замяняе бязмэтавае бадзянне па вуліцы. Гопнікамі застаюцца толькі самыя "тугія і тупыя", чыю думку ўвогуле нічога не можа разварушыць.

Слова "гопнік" стала лаянкай. Цяпер на платах можна заўважыць надпісы "Забі ў сабе гопа", "Выцісні з сябе гопа". Само маладое грамадства ачышчаецца. Гопніцтва застаецца на "задворках". Але, на жаль, гэтыя задворкі ў нашай "краіне пераходнага стану" даволі яшчэ вялікія.

### МЕРКАВАННІ ПА НЕЙТРАЛІЗАЦЫІ

Як бачна з прыкладаў, небяспеку на вуліцах горада ствараюць тыя, каму ў прамым сэнсе гэтых слоў, няма чаго рабіць. Тыя, у каго няма аніякіх цікаўнасцей.

Увогуле праблема цікаўнасцей у маладых людзей стаіць вельмі востра не толькі ў нашай краіне, але, напрыклад, на Захадзе. Аднойчы аўтару гэтага артыкула давялося быць у Бохуме (Германія) на канферэнцыі, прысвечанай праблеме беспрацоўя. Якіх толькі думак і прапаноў не выказвалася, каб даць людзям працу, каб людзі не лічылі сябе выкінутымі, адрынутымі грамадствам. Але ў мяне, "усходняга чалавека", было толькі адно пачуццё — пачуццё зайздрасці да нямецкіх беспрацоўных, бо яны могуць жыць у някепскай (па нашых мерках) кватэры, нават мець танны аўтамабіль і грошы на харчаванне, і пры гэтым, самае галоўнае — у іх столькі вольнага часу! Іншымі словамі, у большасці нямецкіх беспрацоўных маецца магчымасць займацца творчай працай. Але, як ні дзіўна, у большасці з іх няма цягі да творчай працы. Ці бо адсутнічаюць тыя ж цікаўнасці.

Нядаўна ў прэсе прамільгнула паведамленне, што амерыканскія вучоныя знайшлі ген, які адказвае за імкненне чалавека да пазнання новага. І, як сцвярджалася, толькі 10 працэнтаў людзей маюць "вялікі хвосцік" гэтага гена. Значыць, робіцца выснова, што толькі дзесяць працэнтаў людзей здольныя самі па сабе, па сваёй ахвоце вучыцца і рабіць навуковыя і творчыя адкрыцці. А рухаюць чалавецтва наперад вынаходцы, вучоныя, творцы, якіх прыкладна таксама толькі дзесяць працэнтаў ад усяго насельніцтва, астатнія — спажыўцы.

Што ж, генетыка — моцны аргумент, але долю генетыкі ў фармаванні характару чалавека вучоныя вызначаюць мінімум у 40, максімум у 80 працэнтаў, астатняе — выхаванне.

І вось, каб нейтралізаваць адсутнасць прыроджанай цягі да новага і разам з тым атавістычныя інстынкты,— усё тое, ад чаго ў комплексе залежыць беспадстаўная агрэсія маладых людзей, трэба, па-першае, змяніць акцэнты выхавання дзяцей у бок развіцця ў іх творчай актыўнасці і здольнасці самім рабіць высновы, а не прапанаваць гатовыя пастулаты разумення і меркавання (што, увогуле, пачало ўжо рабіцца ў новых ліцэях і гімназіях), па-другое, усімі мерамі падтрымліваць станоўчую "тусовачнасць" моладзі. Каб можна было без вялікіх праблем і вялікага падаткаабкладання адкрываць клубы і нават бары з адмысловым кантынгентам кліентаў. Дзяржава ўсебакова павінна падтрымліваць стварэнне творчага асяроддзя ва ўсім грамадстве. Іншымі словамі, ад постталітарнай краіны трэба "пераходзіць" да краіны не капіталістычнай, ці рэгулюема-рынкавай, а да "краіны з творча-актыўным насельніцтвам", да чаго, дарэчы, імкнуцца ўсе развітыя краіны свету.

Чалавек створаны па падабенстве з Богам, А Бог — вялікі Творца. Чалавеку таксама неабходна пачуваць сябе творцам.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

**P.S.** Наш Мікола Адам, які быў збіты кампаніяй варвараў, пакуль яшчэ не акрыяў. Цяпер ягоная мізэрная зарплата ідзе яму на лекі. І невядома, ці будуць знойдзены патэнцыяльныя забойцы, якія і сёння ходзяць па цёмных вуліцах Мінска...

**С.М.**

# БРЫЖЫТ БАРДО ПРЫСВЯЦІЛА ГЭТАМУ ЖЫЦЦЁ...



4 кастрычніка адбыўся Міжнародны дзень абароны жывёл. У расійскіх сродках масавай інфармацыі шмат увагі надаецца тэме гуманнага стаўлення да жывёл, існуе цэлы шэраг радыё- і тэлеперадач, накшталт "У свеце жывёл", "Страсці-мардасці", догшоу "Я і мой сабака", "Пакуль усе дома" і іншыя. У нас жа падобных перадач няма. Незразумела чаму, але тэма абароны жывёл у нашай краіне з'яўляецца непрэстыжнай, і нашы звароты да рэдактараў газет, на радыё, на TV вельмі рэдка знаходзяць адпаведны водгук.

Нядаўна па канале ГРТ выступаў мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Кірыла, які цэлую перадачу прысвяціў міласэрнаму стаўленню да "братоў нашых меншых", спасылаючыся на радкі са Святога Пісання. Аб тым, што свет паварочваецца тварам да міласэрнасці, сведчыць і тое, што прынцэса Дыяна і Маці Тэрэза, якія нядаўна пакінулі нас, вядомыя ўсім менавіта за сваю дабрыню і міласэрнасць.

Выдатная французская актрыса Брыжыт Бардо ахвяравала сваю кар'еру і набыткі на тое, каб дапамагаць жывёлам. Яна вядзе актыўную прапагандысцкую дзейнасць.

Што ж можна зрабіць у нас у гэтым накірунку? Безумоўна, вельмі важна мець нармальныя законы, якія б ахоўвалі правы жывёл. Не менш істотна пабудаваць прытулкі для кінутых і валацужных катоў і сабак. Але калі мы ўсе разам не павернемся, нарэшце, да праблемы іх аховы, дык ніякія законы, ніякія прытулкі істотна не зменяць становішча спраў. Вельмі важна, на нашу думку, адрадзіць страчаную духоўнасць, выхоўваць нашых суграмадзян: як дзяцей, так і дарослых. І задача гэтая не на адзін дзень. Дзяржава не павінна аддаваць традыцыі духоўнасці і міласэрнасці на водкуп толькі адной царкве. Прапагандуючы і заахвочваючы ў людзей жорсткасць, дзяржава падрывае свае ж асновы.

Вялікая роля належыць сродкам інфармацыі, бо яны — рупар прапаганды. Вялікую ролю таксама адыгрываюць сям'я і школа, установы культуры, бібліятэкі, у тым ліку і дзіцячыя. Не менш важны голас народнай інтэлігенцыі — сумлення народа. Толькі ўсе разам мы здолеем штосьці змяніць да лепшага.

**А.Бычкова, З.Голад, Т.Ціманюк, А.Мазуркіна, Р.Рубінчык і іншыя, сябры таварыства абароны жывёл "Каштанка".**

№ 44 8 — 14 лістапада 1997.

# ВІЛЬНЯ ЁСЦЬ ФУНДАМЕНТ...

**У Мінску ў Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы прайшлі III Міжнародныя Купалаўскія чытанні "Янка Купала — публіцыст", падчас якіх тамсама адбылося адкрыццё выставы "У сугуччы культур. Віленскія постаці беларусаў". Экспазіцыя пра літаратурную Вільню глядзелася досыць сімвалічна — Вільня — Мінск.**

*Мінск, Маладзечна, Вільня...*
*Як жа знаёмы шлях гэты!*
*Змерыў яго я калісьці,*
*Як шукаў шчасця па светах.*
*Янка Купала*
*("Еду сягоння я ў Вільню...")*

**Аповед пра новую экспазіцыю я пачуў ад загадчыка навукова-экспазіцыйнага аддзела Фаіны ВАДАНОСАВАЙ:**

— Гэтая выстава свайго роду працяг гістарычнай серыі, бо мы ўжо ладзілі экспазіцыі, прысвечаныя культурным сувязям паміж Беларуссю і Латвіяй, Беларуссю і Украінай. Усе выставачныя стэнды складаюцца з арыгінальных дакументаў. Тут паказаны лёс самых яркіх асоб нашай беларускай гісторыі, культуры, што маюць дачыненне да Вільні. Усе тутэйшыя экспанаты з фондаў Дзяржаўнага Літаратурнага музея Янкі Купалы, з архіва музея Літаратуры і мастацтва, з асабістага архіва пісьменніка Сяргея Панізьніка. Якія постаці тут пазначаны? Мы не здолелі паказаць усіх віленскіх беларускіх дзеячаў, бо гэта на сёння цяжка і амаль немагчыма. У кожнага свой творчы і жыццёвы шлях — ці пачыналі ад нараджэння з Вільні, ці ўзбагачаліся віленскімі ўражаннямі, ці друкаваліся на старонках "Нашай Ніве", ці працавалі творчасць у Вільні і гэтак далей. Але ўсёж мы, я лічу, паказалі літаратурную Вільню. Тут і Янка Купала — прарок нашага адраджэння, і Алаіза Пашкевіч, якая вучылася ў віленскай вучэльні і вянчалася з Кейрысам у Вільні, і Браніслаў Тарашкевіч, і Вацлаў Ластоўскі, і многія-многія іншыя. Дакументы нібыта ахінаюць нас духоўнай атмасферай тых часоў. Можна на экспазіцыі паглядзець і граматыку Браніслава Тарашкевіча, надрукаваную ў віленскіх выданнях, і ягоны дыпламатычны пашпарт, выдадзены яму ад імя Урада Беларускай Народнай Рэспублікі. Можна даведацца пра дзейнасць Янкі Купалы, калі ён быў адказным сакратаром Беларускага Выдавецкага Таварыства. У нас размешчаны яго невядомы ліст да Браніслава Тарашкевіча. Прычым тэкст напісаны якраз на бланку Беларускага Выдавецкага Таварыства. Ёсць вітрына, што распавядае пра гісторыю газеты "Наша Ніва". Але гэта таксама невялікія штрыхі таго часу. Тут паказаны першы нумар, калі Купала пачаў працаваць у "Нашай Ніве", калі адбылося ягонае знаёмства з Антонам Луцкевічам, Вацлавам Ластоўскім, з будучай жонкай Уладкай Станкевіч. На стэндзе і фотаздымак Янкі Купалы, зроблены ў 1908 годзе ў Вільні. Ёсць фотаздымкі, якія Купала падпісаў людзям, з якімі сябраваў — крытыку Сяргею Палуяну, Уладзіміру Самойлу і Антону Луцкевічу. Апрача гэтага, у нас змешчаны цікавыя фотаздымкі Браніслава Эпімах-Шыпілы, якога называлі патрыярхам адраджэння, ён быў духоўным бацькам Янкі Купалы. Прадстаўлены на выставе і дакументы, што распавядаюць пра беларускія гімназіі, таварыства беларускіх школ, настаўніцкія курсы. Ёсць і стэнд, прысвечаны віленскім выданням, — гэта маленькая частачка выдадзенага з друкарняў, што выдавалі беларускую літаратуру. Можна паглядзець і матэрыялы пра Зоську Верас. Паказаны таксама віленская газеты 20-х гадоў — "Беларусь" і "Звон". У іх ішла вострая дыскусія: многія даказвалі, што сталіцай Беларусі павінна быць Вільня.

**— На гэтай выставе ёсць дакументы, што прадстаўлены шырокай грамадскасці ўпершыню?**

— Так, да прыкладу, тут выстаўляюцца кнігі з аўтографамі Эпімах-Шыпілы. Пра гэтыя выданні ўсе ведаюць, пра іх пісалі навукоўцы, але да іх мелі доступ нямногія.

**— Скажыце, а як узнікла ідэя зрабіць падобную выставу?**

— Ідэя выспявала даўно, але ажыццявілі яе толькі цяпер. Хацелася, каб экспазіцыя адкрылася падчас Купалаўскіх чытанняў і, як бачыце, — здолелі. Адзін з ініцыятараў выставы пра Вільню — пісьменнік Сяргей Панізьнік. Самае галоўнае, што пра беларускіх дзеячаў гавораць гістарычныя дакументы. Бо вельмі важна зірнуць на нашу мінуўшчыну праз гэтакую прызму.

* * *

Калі я разглядваў экспазіцыю, дык узгадаў словы Максіма Багдановіча: "Вільня ёсць фундамент нашага адраджэння".

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# БЕЛАРУСКАЕ ПРАДСТАЎНІЦТВА КАМПАНІІ "ФІЛІП МОРЫС" ЗАСНОЎВАЕ ПРЭМІЮ ДЛЯ АРТЫСТАЎ БАЛЕТА

31 кастрычніка на вечарыне ў Нацыянальным Акадэмічным Вялікім тэатры балета, прысвечанай 50-годдзю мастацкага кіраўніка і галоўнага харэографа тэатра Валянціна Елізар'ева, было абвешчана пра заснаванне прадстаўніцтвам кампаніі "Філіп Морыс" на Беларусі спецыяльнага прыза "Філіп Морыс": "Лепшая роля сезона".

Прадстаўнік кампаніі "Філіп Морыс" Дзмітрый Хрол паведаміў, што прыз заснаўваецца з мэтай падтрымкі таленавітых артыстаў беларускага балета і заахвочвання іх далейшага творчага сталення. Узнагарода — спецыяльны прыз і грашовая прэмія — будуць уручаны лаўрэату ў студзені на цырымоніі ў Нацыянальным тэатры балета. "Філіп Морыс" бярэ на сябе фінансавы бок акцыі, прадастаўляючы правы вызначыць пераможцу аўтарытэтнаму журы, у склад якога ўвойдуць вядомыя дзеячы беларускай культуры. Выбар лаўрэата будзе адбывацца па наступных катэгорыях: мастацкі ўзровень выканання, акцёрскае майстэрства, балетная тэхніка, вобразнае ўвасабленне ролі.

Прэмія "Філіп Морыс" за лепшае выступленне ў балетным спектаклі была ўпершыню заснавана ў 1977 годзе ў Фінляндыі і з тае пары штогод уручаецца ў некалькіх краінах: Венгрыі, Чэхіі, Славакіі, Швецыі, а з 1977 года — у Расіі і Беларусі. Падтрымка выдатных дасягненняў у галіне балета — адзін з вядучых накірункаў дабрачыннай дзейнасці кампаніі, якая на працягу сарака гадоў з'яўляецца актыўным і шчодрым спонсарам у галіне культуры і мастацтва ва ўсім свеце.

Прадстаўніцтва кампаніі "Філіп Морыс" на Беларусі з 1996 года здзяйсняе шэраг спонсарскіх праграм у галіне культуры. У студзені 1996 года пры ўдзеле кампаніі адбыліся фестываль "Блюз жыве ў Мінску" і рэтраспектыва брытанскага кіно "Дзённыя сны". Пры ўдзеле і падтрымцы прадстаўніцтва "Філіп Морыс" прайшла першая выстава твораў Марка Шагала на радзіме вялікага мастака, на Беларусі. Увесь наклад выдадзенага да адкрыцця выставы каталога твораў Шагала быў бясплатна перададзены Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі.

# АКНО Ў РАДЗІМУ, ДЗЕ ЗАКАПАНЫЯ ТАЛЕНТЫ

Да чаго ж ганарліва ўзняліся нашыя галовы — тых, хто сталі сведкамі фестывалю беларускіх эстрадных аркестраў, што адбыўся 27 — 29 кастрычніка ў клубе імя Дзяржынскага! Прычыны гэтага былі ва ўсіх, верагодна, розныя, але рэакцыя аднолькавая: як мінімум — задавальненне, а максімум — захапленне і гонар.

Задавальненне адчулі тыя, спакойныя, хто проста ў тыя дні пачуў шмат рознай музыкі. Захапленне ж выклікаў ва ўсіх без выключэння Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Ён не перастае здзіўляць сваёй універсальнасцю, але ў гэтым і парадокс! Аркестр, які створаны ў першую чаргу для папулярызацыі беларускай песні, не можа лічыцца джазавым. Гэта агульная ўласцівасць эстрадных і духавых калектываў: прызвычаўшыся да свайго вядучага стылю і маючы ў складзе ў асноўным акадэмічных выканаўцаў, яны, беручыся за джазавую п'есу, не здольныя адразу "задыхацць" свінгам і імправізацыяй, бо штучна гэтага не дасягнеш. А наш канцэртны аркестр функцыянуе менавіта наадварот: ён складаецца з музыкантаў джазавага накірунку, прычым большасць з іх — салісты, ёсць некалькі майстроў найвышэйшага ўзроўню. Ад іх выкананне эстраднай музыкі не патрабуе аніякіх высілкаў, затое і ў джазавых праграмах яны пачуваюцца ўпэўнена.

І ніяк не скажаш: на бязрыб'і... Па-першае, як высветлілася, "бязрыб'я" ніякага няма, а, па-другое, у нас ужо былі магчымасці параўнаць аркестр М.Фінберга з сапраўднымі, агульнапрызнанымі майстрамі. Узгадаем І Міжнародны джаз-фестываль "Мінск-94", калі да нас прыязджалі два знакамітыя маскоўскія аркестры — пад кіраўніцтвам Алега Лундстрэма з ягонай багатай гісторыяй і вопытнымі прафесіяналамі і МКС-Бэнд пад кіраўніцтвам Анатоля Крола з ягонымі эфектнымі аранжыроўкамі, каласальнай рэпетыцыйнай працай і кіраўніком — прызнаным музыкантам. Ужо тады бэнд М.Фінберга даваў фору астатнім у віртуознасці. Цяпер жа і аранжыроўкі сталі больш разнастайнымі, і салістаў паболела. А на фестывалі эстрадных аркестраў было заўважана, што музыканты-пачаткоўцы, якія сталі ў дзвярах залы (у сярэдзіну трапіць было немагчыма), ужо ўспрымаюць выступленне Дзяржаўнага канцэртнага аркестра як урок.

Але, увогуле, джаз і не быў асабліва неабходным, бо фестываль усё-такі — эстрадны. Таму крытэрыямі, хутчэй, з'яўляліся прафесіяналізм і эфектнасць калектываў-удзельнікаў. І ў гэтым сэнсе нельга не адзначыць аркестр КАЦ БелТІЗ, якім з нядаўняга часу кіруе малады кампазітар Сяргей Багданаў, што, верагодна, і адбілася на ўзроўні выканання, які яўна падвысіўся. Добра, калі ўдзельнікі калектыву валодаюць рознымі стылямі і хочуць спадабацца, запомніцца публіцы, — а яна, як вядома, заўсёды не супраць, быў б падставы. Аркестр Таварыства інвалідаў па зроку выказаў сваю арыгінальнасць, уключыўшы ў сваё гучанне цалкам рокавую, "з драйвам", гітару, і вядомая джазавая тэма з К.Бахолдзіна "Калі нестае тэхнікі" атрымала новую афарбоўку. Стыльна, амаль горача спявачка Алена Сцепанцова выканала блюзавую калыханку, а аранжыроўка беларускай народнай песні "Шляхта" набыла маршападобны, нават агрэсіўны характар.

Цыркавыя аркестры (з Мінска і Гомеля) засталіся вернымі спецыфіцы свайго стылю, у мінскім, праўда, запомніўся саксафаніст Антон Машкала, які саліраваў у баладзе "à la Фелікс Славачак". Але такія калектывы лепей за ўсё выглядаюць у хуткіх п'есах, і тут эфектная труба Мікалая Федарэнкі (адтуль жа) была вельмі дарэчы.

Дэбют мінскага дыксіленда "Рэнесанс" прайшоў на "ўра", у асноўным дзякуючы новым музыкантам — абаяльнаму трубачу Аляксею Леановічу і "співаючаму" кантрабасісту Віктару Пынцікаву. Быў адзначаны публікай таксама і дыксіленд з Баранавічаў, але набыўшы (таксама нядаўна) цікавага саксафаніста Руслана Міхновіча, ягоныя ўдзельнікі не заўсёды "ажыўлялі" сабой сцэну, а ў такой музыцы без артыстызму ніяк нельга.



*"Полацк-аніма-квартэт".*



*"Анатоль Радзюкоў і новае пакаленне".*

Больш за ўсё нечаканасцяў, як заўсёды, прынеслі выступленні невялікіх ансамбляў — асабліва склад інструментаў у іх. Вельмі незвычайна гучалі класічныя джазавыя тэмы ў інтэрпрэтацыі струннага трыо Віктара Пынцікава, адзін з удзельнікаў якога, скрыпач Аляксандр Цэйтлін, ужо даволі вядомы ў нашым горадзе як тэмпераментны і артыстычны імправізатар. У магілёўскім ансамблі "Імпульс", з вельмі своеасаблівым стаўленнем да пабудовы формы кампазіцый, вылучыўся таленавіты вібрафаніст Сяргей Лазарэнка — здаецца, адзіны на ўсю краіну. А мінчане, сабраныя Сяргеем Браудэ ў ансамбль "Elite Syncopations", стваралі атмасферу салона — таксама з дапамогай струнных.

Напэўна, асабліва прыемнай нечаканасцю можна лічыць даволі актыўны "жаночы" ўдзел у такім буйным эстрадна-джазавым мерапрыемстве. Прычым, на ўсіх узроўнях — мы ўбачылі нават цалкам жаночы аркестр пад назвай "Капрыз", які прыехаў з Гродна. І поспех ён меў у публікі, мяркую, не толькі з прычыны "пераможнага" іміджа, асабліва дзве ягоныя салісткі — Алена Стэльмах і Наталля Клімовіч, якая стварала на сцэне вобраз "лэдзі блюза". Ну, у вакале ў жанчын часта ўзнікае перавага ў эстрадных жанрах (дарэчы, добры голас і стыльная манера выканання студэнткі Беларускага універсітэта культуры Яўгеніі Лятун прыцягнулі ўвагу М.Фінберга, які адразу запрасіў яе ў свой аркестр).

Шмат дзяўчат было ў інструментальных ансамблях. Тут, бадай, усцешвае сам факт, але ж яны яшчэ такія маладыя — у іх яшчэ ўсё наперадзе. Калі саксафаністка Ганна Тумеля назапасіць дастатковую колькасць слыхавога вопыту і знойдзе як мага больш часу для пошуку "свайго" гуку раней, чым "захварэе" на "зорную" хваробу, дык тады будзе нагода паразмаўляць пра яе. А вось Люда Крукоўская, якая ўпэўнена і аб'ёмна вядзе басовую лінію, падае відавочныя спадзяванні, здаецца, ужо на бліжэйшую будучыню.

Аднак, галоўнае тут усё ж — актыўнасць навучэнцаў. Эстраднае аддзяленне Беларускага універсітэта культуры прадставіла адразу некалькі калектываў, што ігралі ў розных стылях, і можна ўжо, думаецца, канстатаваць, што працэс фармавання нашага эстрадна-джазавага "заўтра", нарэшце, зварухнуўся з мёртвай кропкі.

Але гэта ўсё — у будучыні. А цяпер мы маем яшчэ адзін бліскучы "малы склад" пры Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі. І тут ёсць адразу дзве нагоды для радасці. Па-першае, зноў загучаў, і цяпер ужо ў саліруючым варыянце, цудоўны саксафон Анатоля Радзюкова — вопытнага выканаўцы, які іграў разам з вядомымі беларускімі джазмэнамі Ігарам Сафонавым і Барысам Бернштэйнам. А па-другое, побач з ім апынуліся таленавітыя маладыя хлопцы — студэнты Мінскай музычнай вучэльні імя Глінкі. Цяпер у нас па аналогіі з маскоўскімі ансамблямі ёсць свой — "Анатоль Радзюкоў і новае пакаленне". Дэбютаваў ён з праграмай з джазавай класікі, а да маючага адбыцца Міжнароднага джазавага фестывалю абяцаны сюрпрызы.

А на фестывалі беларускіх эстрадных аркестраў галоўным сюрпрызам, нават, бадай, адкрыццём для ўсіх стала вакальная група "Полацк-аніма-квартэт" пад кіраўніцтвам Святланы Трушынай. Да з'яўлення так любімай намі "Камераты" поле вакальнага джаза было на Беларусі неўзараным, бо ніхто, здавалася, не жадаў пачынаць такую клопатную справу, што патрабуе далікатнага слыху, карпатлівай працы і бездань энтузіязму. Усё гэта маюць удзельнікі "Полацк-аніма-квартэта" — плюс цудоўныя галасы, добры музычны густ і фантазія, якая дапамагае ствараць рэльефную поліфанічную тканіну, пафарбаваную сакавітымі гармоніямі ў аранжыраваных імі кампазіцыях. Да таго ж, вакалісты абаяльныя, артыстычныя і цалкам пазбаўленыя правінцыйнасці, якая часцяком адчувалася ў выступленнях музыкантаў-гасцей.

Мяркуючы па выніках фестывалю, з "Полацк-аніма-квартэтам" і з некаторымі іншымі ўдзельнікамі нас чакае сустрэча на Міжнародным фестывалі джаза, як і было абяцана М.Фінбергам. А мы чакаем сустрэчы з новымі талентамі ўвесь год.

**Ганна АЛАДАВА**
**Фота Артура ПРУПАСА**



Свята-Мікалаеўская царква, што была ўзведзена ў Петрыкаве ў 1830 годзе і захавалася да гэтага часу, з'яўляецца адзіным такім даўнім архітэктурным помнікам на Палессі (пабудаваныя ў той час у Тураве і Давыд-Гарадку цэрквы былі разбураны). Тут адзін з лепшых на Гомельшчыне царкоўны хор, дзейнічае нядзельная школа, сабрана шмат старадаўніх абразоў, што засталіся на Беларусі ў адзіным асобніку.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА**

# ЛІЧЫЦЬ ЗАГІНУЎШЫМ У БАРАЦЬБЕ ЗА ГЭТА

31 кастрычніка ў Палацы культуры чыгуначнікаў у Маладзечне адбыўся рок-канцэрт пад назвай "У барацьбе за гэта", арганізатарамі якога выступілі Цэнтр грамадскіх ініцыятываў і Маладзёжны асветна-культурны клуб. На канцэрце выступілі "N.R.M." і "Камэлот" з Мінска, а таксама чатыры мясцовыя гурты: "Bourkina Faso", "Happy Face", "Рэактар", "Green Snake".

Для мяне, карэспандэнта газеты, канцэрт пачаўся са спазнення — прапусціў патрэбную электрычку. Ігар Войніч з "Камэлота", першы знаёмы чалавек, якога я сустрэў у Палацы культуры, паведаміў, што канцэрт ідзе ўжо каля паўгадзіны і што яны ўжо "адлабалі". Крыху засмучоны гэтым, я прайшоў у залу, у якой сядзелі, танчылі і соўгаліся туды-сюды каля 250 чалавек.

Выступленне гурта "Happy Face", які якраз тады быў на сцэне, мне спадабалася, нягледзячы на дрэннае выкананне сваіх абавязкаў гукааператарам. Мне здалося, што гукааператар увогуле быў выпадковым чалавекам на гэтым канцэрце. На гук скардзіліся і слухачы, і самі выступоўцы. Як паведаміў мне адзін мясцовы хлопец — Ігар "Малькольм", выступленне першага гурта — "Bourkina Faso" — наогул немагчыма было слухаць — апаратура "фаніла", чутны былі толькі ўдарнікі, у вакале немагчыма было разабраць ніводнага слоўца. Потым з'явіўся гукааператар з "N.R.M.", і выступленне "Камэлота" прайшло на больш прыстойным гукавым узроўні.

Мне вельмі спадабаўся "прыкід" наступнага гурта — "Рэактар". Саліст быў апрануты ў чорнае трыко, у капялюшык з вушамі, на твары — паўмаска, а на грудзях надпіс "Кот". Гітарыст быў апрануты ў нешта аб'ёмнае і жоўта-чорнапаласатае, за спінай металічныя крылцы, галаўны ўбор быў з нейкімі антэнамі-вусамі. На грудзях жа — больш лаканічны, чым у саліста, надпіс — "Ос". Бубнар меў самы кідкі выгляд, ён быў апрануты ва ўсё белае, вельмі нагадваў зайца, толькі са знакам радыяцыі на грудзях — кола з чорна-жоўтымі сектарамі. Але само выступленне было, натуральна, слабым.

Зразумела, што выступленне "N.R.M." прайшло на "ўра". Амаль усе гледачы ўзняліся са сваіх месцаў. Вясёлымі плямкамі выдзяляліся два белчырвона-белыя сцяжкі, якія мільгацелі над галовамі каля самай сцэны.

Мне захацелася паглядзець, як выглядае зала са сцэны, але я амаль нічога не ўбачыў, таму што адзіны ліхтар-пражэктар літаральна сляпіў вочы тым, хто знаходзіўся на сцэне.

Выступленне апошняга гурта "Green Snake" было малазразумелым. Спачатку невядома чаму "спрацавала" сігналізацыя за сцэнай, а потым натоўп выраўшыў усур'ёз дапамагчы музыкантам і пачаў перабірацца з залы на сцэну, але на сцэне ўсім месца, вядома, не хапіла. Дзе ў гэты час былі арганізатары — "схавана ў змроку". Нікога з іх я ў твар не ведаю, як не ведалі і міліцыянты, якія, пачынаючы з 22 гадзін, настойліва іх адшуквалі (зала была арандавана да 22 гадзін, а канцэрт скончыўся толькі каля 23-х). Дзею ўдалося прыпыніць адно пасля таго, як некалькі разоў была адключана электрычнасць.

Канцэрт скончыўся і, дзякаваць Богу, "у барацьбе за гэта" ніхто не загінуў.

**Міхась БАШУРА**

# "МХАТ" У МІНСКУ



4 лістапада ў Рэспубліканскім культурна-асветніцкім цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя з нагоды вялікіх гастроляў у Мінску знакамітага тэатра "МХАТ" пад кіраўніцтвам зоркі тэатральнага мастацтва і кіно Расіі Таццяны Даронінай. У Мінскім доме афіцэраў будуць паказаны спектаклі "Белая гвардыя", "Зыкавы", "Старая актрыса на ролю жонкі Дастаеўскага", "Мы ідзем глядзець Чапаева", "Дома невідзімка", "Зойкіна кватэра".

**Наш кар.**

# СУСТРЭЧЫ НА ЗАМКАВАЙ

Літаратурны салон "Сустрэчы на Замкавай" Гомельскай гарадской цэнтральнай бібліятэкі імя А.Герцэна добра вядомы гараджанам. Дзейнічае ён са студзеня 1996 года і ўжо атрымаў даволі чуйны рэзананс, а сустрэчы сталі рэгулярнымі і традыцыйнымі. Арганізатары — дырэктар Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Т.Клімава і загадчыца аддзела абслугоўвання ЦГБ імя А.Герцэна Н.Малашанка лічаць, што ўдалося аб'яднаць блізкіх па духу людзей для нязмушаных кантактаў, што ў наш інфармацыйны век ёсць вялікім дэфіцытам. Атмасфера цеплыні і творчай скіраванасці, якая пануе ў салоне, прыцягвае масцітых літаратараў, мастакоў, а таксама і таленавітую моладзь. Пры салоне працуе аматарскае літаратурнае аб'яднанне "Дэбют".

У салоне адзначаюцца самыя значныя падзеі ў культурным жыцці горада і сябраў салона. Першае пасяджэнне было прысвечана 60-годдзю рускага паэта М.Рубцова — вечар памяці "Я умру в крещенские морозы". Незабыўнае ўражанне пакінуў вечар-успамін, прысвечаны стогадоваму юбілею старэйшага гомельскага мастака Б.Звінагродскага.

Госці салона ўшаноўвалі на сваіх сустрэчах Ю.Фатнева — цудоўнага майстра пяра, вялікага сябра бібліятэкі, С.Масіяша — цікавага чалавека, аўтара многіх гістарычных раманаў, В.Ткачова — драматурга, добра знаёмага тэатралам. На Замкавай прайшла і прэзентацыя часопіса "Палессе".

Пастаянныя наведнікі салона — экслібрысіст А.Шэліпаў і баяніст В.Дэй. Работы вядомага разьбяра па дрэве Б.Васількова не раз упрыгожвалі інтэр'ер салона. Мясцовы бард Зм.Бартосік кранаў душы прысутных сваімі спевамі пад гітару.

Сапраўдным адкрыццём салона сталі вершы Г.Лапаціна, супрацоўніка Веткаўскага музея народнай творчасці. Цэнтральная гарадская бібліятэка імя А.Герцэна выпусціла ў свет першы зборнік вершаў паэта "Без нисел и дат" з прадмовай Ю.Фатнева.

Нядаўна госцем літаратурнага салона быў вядомы беларускі паэт, наш зямляк М.Башлакоў. Зараз ён жыве і працуе ў Мінску. Міхась прадставіў сваю паэму "Як слёзы горкія Айчыны"...

Пасля творчых летніх канікул аднавіліся "Сустрэчы на Замкавай". Госцем апошніх "Сустрэч" была гомельская паэтка і празаік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, настаўніца і проста вельмі прыемная жанчына Т.Мельчанка. У кастрычніку ёй спаўняецца 50 гадоў. Юбілярка прымала віншаванні, чытала свае вершы, пераклады, расказвала аб сваёй творчай дзейнасці.

**Ніна ЛІТВІНАВА**
*Гомель*

**P.S.** Праспект Леніна, на якім знаходзіцца бібліятэка, раней называўся вуліцай Замкавай.

# МУЗЕЙНАЯ АФІША

У другой дэкадзе лістапада ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адбудзецца адкрыццё выставы "Нам засталася спадчына". Экспазіцыя выставы ствараецца на аснове дакументаў, што захоўваюцца ў фондах музея, яна прысвечана сёлетнім юбілярам нашай літаратуры: Янку Купалу, Якубу Коласу, Пімену Панчанку, Максіму Танку, Янку Брылю. Мінчукі, наведаўшы новую экспазіцыю, даведаюцца шмат новага, звязанага з творчасцю нашых "літаратурных зуброў" у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Дзяржаўны музей гісторыі літаратуры ў хуткім часе запросіць наведнікаў на выставу, прысвечаную жыццю і творчасці Пімена Панчанкі.

У Літаратурным музеі Янкі Купалы ў лістападзе адкрыецца выстава "Віленскія постаці".

Музей Якуба Коласа распачаў лістапад месяц традыцыйнымі "каласавінамі", што адбыліся 3-га і 4-га лістапада. У гэтым жа месяцы таксама мяркуецца адкрыццё выставы ў Ластку, прысвечанай творчасці Якуба Коласа, і найперш, аднаму з лепшых яго твораў "Сымон-музыка".

**А.Р.**

# "І ПЯЮ Я ПЕСНЮ ДЛЯ ЦЯБЕ..."

Абвяву з творчага вечара вучаніцы 10 "А" класа СШ № 21 горада Баранавічы я вырашыў захаваць у сваім архіве і ўручыць ёй на новых будучых урачыстасцях як прафесійнага кампазітара. А называлася гэтае мерапрыемства "І пяю я песню для цябе...", дзе таленавітая дзяўчына грала ўласную музыку, выконвала песні, для якіх асабіста "нарадзіла" мелодыі, прытым на свае ж вершы...

Актавая зала была паўнюткая, людзі сядзелі, стаялі ўпрытык, была і дэлегацыя армян: як аказалася, у Ерэване ўжо выдадзены касеты Міры Несцяровіч на яе словы і музыку і ў яе ж выкананні.

Актыўны ўдзел у гэтай вечарыне прыняў ВІА "Акварэль" на чале з яго выдатным кіраўніком Анатолем Міхалкам. Як сведчыла сама Міра Несцяровіч, гэта ён "вінаваты" ў яе творчых здабытках.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**
*Баранавічы*

# "НІБЫТА Ў МІНУЎШЧЫНЕ СПЕЕ БУДУЧЫНЯ..."

Аляксандр Дзямідаў. 32 гады. Мінчанін. Скончыў Мінскую мастацкую вучэльню і Беларускую акадэмію мастацтваў. Наладзіў тры персанальныя выставы — дзве ў Мінску і адну — у Берліне. Цяпер удзельнічае ў выставе ў галерэі "Пітэр Брэйгель" у Амстэрдаме.

"Я не канцэптуаліст, не авангардыст. У мастацтве я рэаліст. Мае пластычныя формы традыцыйныя, у іх можна знайсці паралелі са "Светам мастацтваў" і "Блакітнай ружай", з французскім жывапісам пачатку XX стагоддзя. Але гэта — мой свет. Свет маіх вобразаў і ўяўленняў, маіх пачуццяў і перажыванняў, дакладней — мой дыялог са светам, увасоблены алеем на палатне..." (з гутаркі з мастаком).

І, сапраўды, у Аляксандра Дзямідава — высокая здольнасць заўважаць у жыцці, у мастацтве толькі тое, што спалучаецца з асновамі асабістага светаразумення.



А.Дзямідаў. "Пікнік. Меланхолія".

Ягоныя "меланхоліі" і "рытуалы", "лялькі" і "райскія сады", "дзяўчынкі з маскай" і "ракушкі" даюць прастору поўнаму і ўсебаковаму самавыказванню. Ён нібыта знаходзіцца на мяжы тэатра і жывапісу, сцэны і жыцця, сапраўднага і казачнага, нязмушанай, разняволенай фантазіі і засяроджаных разваг пра рэчаіснасць.

Фіксацыя моманту і бег часу. Стан прыроды і стан душы. Прадчуванне канца — прадчуванне пачатку. Час хуткаплынны — час адвечны. Адно пераліваецца ў другое. Гэта пераходны час, працяглы, бясконцы... Прастора вабіць, нібыта ўспаміны маленства. Гэта вобраз адкрытых магчымасцяў. Ахматаўскі... "Как в прошедшем грядущее зреет, так в грядущем прошлое тлеет..." — эпілог да творчасці Аляксандра Дзямідава, якую можна пабачыць у галерэі "Жыльбел".

**Б.К.**



Л.Шчамялёў. "Цёплы вечар".

# ЗАГАДКІ ЛЕАНІДА ШЧАМЯЛЁВА

З 4 лістапада ў Навапалацкім музеі гісторыі і культуры працуе выстава жывапісу народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва. Тут экспануецца каля 40 карцін, пейзажаў, партрэтаў, нацюрмортаў, напісаных у розныя гады, у тым ліку і зусім новых, якія раней не выстаўляліся.

Калісьці ў Мацiса і Руо запыталіся: ці малявалі б яны на пустынным востраве? Мацiс не ўяўляў сабе мастака без публікі, а Руо не пакінуў бы сваіх заняткаў, бо на незаселеным востраве "нас двое: я і Бог".

Шчамялёву бліжэй Руо. Шчамялёў таксама маляваў бы на пустынным востраве. Ён — лірык сусветнай прасторы. Прыгожыя людзі, прыгожыя коні, прыгожыя кветкі, прырода, такая прыцягальная, прывабныя побытавыя рэчы насычаюць ягоны цёплы, рэальна-казачны жывапіс.

Рэаліі арганічна спалучаюцца не, так бы мовіць, з нерэаліямі, але з самой сітуацыяй жыцця натуральных незвычайнасцяў. Мастак існуе ў сваім вялікім, светлым і добрым свеце. Такая ягоная сутнасць. Яна далёкая ад дробязяў рэальнасці. Ён піша канкрэтную Дзвіну альбо Вязынку, зімовы Ракаў альбо, скажам, світанак пасля свята — а ў выніку нараджаецца толькі яго, шчамялёўская, духоўная прастора.

Прастора, дзе з'яднаны інтымныя рамантычныя перажыванні і касмічная шырыня погляду на свет, у якім няма нічога "непрывабнага, выпадковага", пранізліва-чысты каларыт і музычная гармонія мяккіх ліній. О, гэтая дзіўная, жывая, шчамялёўская лінія, яка, здаецца, дыхае! Лінія, што адлюстроўвае хуткаплынны бег жыцця, падпарадкаваная адчуванню жывой формы, экспрэсіўнасці чалавечых постацяў і твараў.

Лінія, што іншы раз ліецца плаўна і пругка, а іншы раз робіцца перарывістай, нервовай, трапяткой. Так піша маэстра, які ўмее дакладна, надзвычай пластычна і пераканаўча замацоўваць на палатне зменлівую, рухомую, здавалася б, няўлоўную сутнасць рэчаў і з'яў.

Стварасць для Шчамялёва — патрэба. Ягоныя творы з'яўляюцца для мастака своеасаблівай шчырасцю, яны — частка яго самога. Ён адкрыты, звернуты да іншых, ягоныя карціны прапаноўваюць сябе людзям, і людзі ведаюць, што яны атрымаюць ад твораў мастака. У той жа час Шчамялёў ведае болей за людзей, якія глядзяць на ягоныя палотны. І гэтае "болей" заўсёды застаецца з ім: яно — прадмет разгадкі.



Л.Шчамялёў. "Снежань".

Загадкі Шчамялёва ненаўмысныя, яны ўзнікаюць самі. Прапускаючы праз сябе свет, час, ягоныя канфлікты, ягоныя трагедыі, ягоныя пошукі, мастак набыў нябачную сувязь з гэтым светам. Ягонае мастацтва ведае і стрэсы, і тугу. Але яму вядомая і радасць, і вера ў чалавечую дабрыню, у вышэйшае прызначэнне чалавечага пачуцця. І ў гэтым — адна з ісцін, якія мастак сцвярджае як непарушнае апраўданне перад самім сабою, перад сваім часам...

**Барыс КРЭПАК**



# ГЕАМЕТРЫЯ КРАЯВІДУ

У галерэі візуальных мастацтваў "NOVA" (Мінск, вул. Веры Харужай, 16) 23 кастрычніка адкрылася выстава твораў вядомага мінскага мастака — Вячаслава Паўлаўца.

Мастак добра знаёмы беларускім аматарам мастацтва, ды і не толькі беларускім. Згадваю ягоную персанальную выставу, наладжаную ў Доме работнікаў мастацтваў Латвійскай ССР сем гадоў таму, якая прайшла з вялікім поспехам. Папярэдне тая ж выстава была паказана ў Мінску ў Доме работнікаў мастацтваў.

На адкрыцці Васіль Шаранговіч, як былы выкладчык, зазначыў, што ўжо падчас навучання ў БДТМІ, на аддзяленні графікі, Вячаслаў вылучаўся сваім адметным творчым почыркам і вялікай працаздольнасцю.

Амаль што ўсе выступоўцы адзначылі тонкі лірызм, а таксама рамантызм, якімі прасякнуты амаль усе творы мастака. Назваўшы сваю выставу "Геаметрыя краявіду", мастак не здрадзіў сваёй любові да пейзажа.

На чатырнаццаці графічных аркушах мы бачылі краявіды, выкананыя ў рэалістычным накірунку, але тут Вячаслаў зрабіў спробу злучэння рэальнага пейзажа і абстрактных формаў.

Замысловатыя лініі, плямы ды іншыя складаныя і простыя знакі напластаваны свабоднымі пастэльнымі росчыркамі па акварэльнай паверхні пейзажа. Тут, як зазначыў адзін з калег мастака, В.Паўлавец "пашырыў сваё разуменне пейзажа на новым узроўні".

**Мікола ПАГРАНОЎСКІ**





В.Паўлавец. З серыі "Геаметрыя краявіду". Аркушы 1, 2, 3.

# Антаніна ФАЛЕЙ: "...СЯРЭДЗІНА ШЛЯХУ"



Антаніна Фалей. З нізкі "Ступені эвалюцыі".

Віцебская мастачка Антаніна Фалей, творчасць якой глядач пэўны час ведаў, у асноўным, па рэдкіх творах у калектыўных тэматычных экспазіцыях, у апошнія гады даволі выразна заявіла аб сабе ў акварэлі.

Але найбольш выразна ўласная пазіцыя, як і індывідуальная манера творцы, прагучала на персанальнай выставе, што адкрылася ў Віцебскім мастацкім музеі. Невялікая зала змясціла 25 кампазіцый, большасць з якіх адметная амаль абстрактнымі фармапластычнымі пошукамі. Антаніна Фалей, здаецца, цалкам ігнаруе канкрэтна-рэальныя выяўленчыя і фігуратыўныя формы. Увага мастачкі засяроджана на пошуках складаней рытмікі і гармоніі колеру. У зусім не звыклай для акварэлі манеры Фалей літаральна адкрывае новыя магчымасці тэхнікі. Большасць яе акварэляў, мастака-мадэльера па адукацыі, нагадвае тэкстыльныя кампазіцыі. Некаторыя яе творы выклікаюць вобразныя асацыяцыі з піктаграфічным пісьмом (нізка "Блізкае і далёкае") ці нагадваюць своеасаблівую жывапісную інтэрпрэтацыю іераглiфічнага тэксту (нізка "Ступені эвалюцыі"). Увогуле, семіятычнасць — характэрная рыса большасці кампазіцый мастачкі.

У шэрагу работ мерны рытм, што ствараецца шырокімі, амаль аднаколернымі залiўкамі плоскасцяў і лінейна выверанымі рухам вялікіх форм, амаль разбураецца ўнутранай энергіяй і дынамікай тонкіх белых штрыхоў (нізка "Блізкае і далёкае"). Фалей выкарыстоўвае гарманічныя спалучэнні фарбаў, тонкія пераходы колеру, зрэдку расстаўляючы ў кампазіцыях акцэнты гучнага колеру ці ў выглядзе выразна падкрэсленай формы (дыптых "Набыццё вышыні"). Немалую ролю ў акварэлях адыгрывае белы колер паперы, які адмысловымі карункамі аздабляе жывапісную фактуру твора, аб'ядноўвае кампазіцыю.

Безумоўна, не ўсе яе творы, прадстаўленыя ў экспазіцыі, аднолькавыя па мастацкіх вартасцях, што зусім натуральна для творчасці любога мастака. Але не кожны творца так, як яна, уяўляе свае дасягненні і сваю творчасць у агульнай прасторы сучаснага мастацтва. І тое, што Антаніна Фалей у якасці асноўнай канцэпцыі выставы выкарыстоўвае шматсэнсоўную назву аднаго са сваіх дыптыхаў "Сярэдзіна шляху", сведчыць аб тым, што мастачка добра разумее напрамкі свайго далейшага самаўдасканалення. А значыцца, у творчасці яна ўпэўнена крочыць наперад і лепшыя працы яшчэ чакаюць гледача.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**
*Віцебск*





# У ПРАГУ, СКАРЫНЕ ПАКЛАНІЦЦА

Напрыканцы кастрычніка шчасліва супалі дзве падзеі: 480-годдзе з дня выдання Францішкам Скарынай у Празе першай кнігі Бібліі — "Псалтыра" і гадавіна ўсталявання ў чэшскай сталіцы помніка нашаму вялікаму земляку — навукоўцу, асветніку, заснавальніку беларускага кнігадрукавання. З гэтай нагоды ў Празе па ініцыятыве беларускай амбасады ў Чэхіі і Славакіі і пры падтрымцы беларускага ўрада было наладжана свята "Беларуская зорка". Для ўдзелу ў ім у Чэхію прыехала афіцыйная дэлегацыя нашай краіны, а таксама выдатныя мастацкія калектывы — студыя "Сябры" і ансамбль "Харошкі".

У залаты сонечны дзень, пасля набажэнства ў кафедральным саборы святых Кірылы і Мяфодзія пасланцы нашай незалежнай дзяржавы накіраваліся ў знакаміты Пражскі Град. У строях беларускай шляхты, несучы ў руках харугвы з выявай Скарыны, ішлі людзі ад Градчан, дзе ў апошні перыяд свайго жыцця працаваў Скарынін сын садоўнікам-батанікам у караля Фердынанда I і дзе на сонечнай паляне ў прыгожым месцы стаіць цяпер са сваёй першай кніжкай у руках блізкая кожнаму адукаванаму еўрапейцу бронзавая постаць Францішка.

По дарозе беларусаў віталі пражане і шматлікія турысты, а ў адным з двароў Пражскага Града, непадалёк ад рэзідэнцыі прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавела, шмат каго сабраў карагод, арганізаваны беларускімі танцорамі ды спевакамі. Хто не ведаў, каго ўслаўляюць тут беларусы, атрымліваў тлумачэнні...

Нататкі аб свяце "Беларуская зорка", што прайшло ў Празе, чытайце ў наступным нумары "Культуры.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БелТА, спецыяльна для "Культуры".**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

















№ 44 8 — 14 лістапада 1997.



# ВЯРТАННЕ "ВУНДЭРКІНДА"

***На пачатку студзеня 1994 года нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне «Беларуская капэла» правяло невялічкі фестываль — усяго тры канцэрты «Каляды ў «Беларускай капэле» — музыкі беларускіх кампазітараў, якія воляю лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны. І калі з творчасцю некаторых з іх — М. Равенскага, М. Куліковіча, Э. Зубковіч — мы ўжо крыху пазнаёміліся (асобныя творы іх гучалі ў канцэртах ці па радыё), дык не тое што аб творчасці, а нават імя Яна Тарасевіча да гэтага фестывалю не чулі ні выканаўцы, ні тэарэтыкі, ні гісторыкі айчыннага мастацтва.***

***Выпадкова даведаліся пра яго і мы, выканаўцы, — Ганна Каржанеўская і аўтар гэтых радкоў. Мінчанка Ларыса Мікалаеўна Пілянкевіч звярнулася да нас з пытаннем, ці не зацікавімся мы творамі кампазітара, архіў якога знаходзіцца ў яе брата ў Любліне? Паводле звестак Ларысы Пілянкевіч, сярод нотаў шмат твораў на беларускія тэксты ці на беларускія тэмы. Прозвішча кампазітара — Ян Тарасевіч. Зразумела, гэта нас зацікавіла — і вельмі. Мінуў нейкі час. І вось перад намі ляжаць ноты, гуказапісы, фотаздымкі, іншыя дакументы, звязаныя з жыццём і творчасцю кампазітара, піяніста-выканаўцы і педагога, асоба якога выклікае надзвычайную цікавасць.***

***Высвятляецца, што піяністам Тарасевіч быў найвыдатнейшым. Яго фартэпіянныя творы выдаваліся П. Юргенсонам. Ён жа аўтар першых музычных твораў на вершы Максіма Багдановіча, Францішка Багушэвіча, а напэўна, і Якуба Коласа. Вучань Язэпа Віталя, Аляксандра Глазунова, сябра Яна Сібеліуса, Сяргея Рахманінава, Ян Тарасевіч належыць да ліку шчырых адраджэнцаў пачатку стагоддзя. Як педагог ён таксама мог ганарыцца: адзін з яго выхаванцаў — слынны ў свеце дырыжор Ежы Максымюк.***

***Музыка, якая адкрылася нам, падалася надзвычай каштоўнай, а абставіны дзейнасці яе стваральніка — часам сенсацыйнымі.***


Ян Тарасевіч. 17 лістапада 1922 г. Саколка.


Бацька А.А.Тарасевіч.


Маці М.І.Кушаль.

### Бацькі

Бацька будучага кампазітара Аляксей Андрэевіч Тарасевіч, дваранін Мінскай губерні, нарадзіўся 15 сакавіка 1847 года. Адукацыю атрымаў хатнюю, што было зазвычай у шляхецкім асяроддзі, потым — вышэйшую вайсковую: выхаванец Віленскага пяхотнага інжынернага вучылішча. Удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1877—1878 гг. Храбры афіцэр, падпалкоўнік Тарасевіч быў узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі. Праваслаўны Аляксей Андрэевіч узяў за жонку Марыю Іосіфаўну Кушаль — шляхцянку Гродзенскай губерні каталіцкага веравызнання. Ад гэтага шлюбу нарадзілася трое дзяцей: Сцяпан, Ганна і Іван. Хрысцілі дзяцей у праваслаўнай царкве. Ян Тарасевіч нарадзіўся 23 верасня 1886 года.

### Дзяцінства

Дзяцінства Яна пачыналася звычайна для шляхецкага асяроддзя. Бацька атрымліваў даволі прыстойны заробак. Жыла сям'я ў Саколцы, што пасярэдзіне паміж Гроднам і Беластокам.

Хатняя адукацыя шляхецкіх дзяцей уключала ў сябе і музычную. Для Янавай сястры Ганны ўзялі настаўніка музыкі. На яе занятках маленькі Ян проста прысутнічаў і ціхенька глядзеў, дзе якія ноты, напісаныя на паперы, размяшчаюцца на клавіятуры. Сам ён прыгадваў (тут і далей зберагаем мову арыгінала): «Калі мне мінула 7 лет, зачалі мяне вучыць пісьменству, але помню, што тагды ўжо я ўмеў іграць на раяле і нават ведаў ноты. Рок пазьней дзеля мяне была запрошана вучыцелька музыкі. На 10 гаду мяне аддалі ў Пскоўскі кадэцкі корпус, з каторага пасьля, каб я быў бліжэй да хаты, перавялі мяне ў Полацкі корпус». Ужо тады Янка пісаў музыку, але запісваць яшчэ не ўмеў. Дапамагала яму настаўніца, якая запісвала гэтыя «творы».

Але тут здараецца непапраўнае. Цяжка захварэла маці. Паклалі яе ў Пецярбургскі клінічны шпіталь. Аднак выратаваць Марыю Іосіфаўну не ўдалося. 5 сакавіка 1900 года яна памерла ад рака. Мінулі два тыдні, і ў цягніку па дарозе ў Пскоў раптоўна памёр бацька. Здарылася гэта 19 сакавіка 1900 года ў горадзе Старая Руса.

У Пскове, дзе ў той час жылі Тарасевічы, засталіся сіротамі трое дзяцей. Намаганнямі добрага знаёмага Тарасевічаў — студэнта Пецярбургскага тэхнічнага інстытута Льва Фёдаравіча Лешкі ў Пецярбургу адшукалі стрыечную сястру Марыі Іосіфаўны Леакадзію Улазоўскую і яе мужа, калежскага саветніка. Жылі Улазоўскія ў маёнтку Шындзель Сакольскага павета Гродзенскай губерні. Апякунка, Леакадзія Дамінікаўна, дамаглася пенсіі ўсім траім дзецям. Ян вучыўся «пісьменству» і музыцы. Поспехі ў фартэпіяннай ігры былі такія значныя, што яму далі мянушку «вундэркінд». Нездарма далі, бо ў 9—10-гадовым узросце ён выступаў у канцэртах і выконваў вальсы Шапэна, Другую рапсодыю Ліста.

### Полацк

Абодва сыны падпалкоўніка Аляксея Тарасевіча згодна з сямейнай традыцыяй былі аддадзены на выхаванне па вайсковай частцы — у Полацкі кадэцкі корпус. Корпус вёў свой пачатак з 1830 года і да канца XIX стагоддзя меў даволі багатую гісторыю. Заўважым, што кіраўніцтва корпуса прыхільна ставілася да мастацкага выхавання кадэтаў.


Ян Тарасевіч з цёткай Л.Улазоўскай.

Гастралявалі ў корпусе вядомыя харавыя калектывы Аляксандра Архангельскага і збіральніка народных песень Дзмітрыя Агрэнева-Славянскага. У праграмы апошняга ўключаліся беларускія народныя песні «Дудка-вясялуха», «Муж жонку б'е» і іншыя. Таму цалкам зразумела, што ў «ваенныя гады» Тарасевіч не спыняе заняткаў музыкай. Вучыўся так паспяхова, што наступны крок — паступленне на фартэпіянны факультэт пецярбургскай кансерваторыі — адбыўся для яго без якіх-небудзь перашкодаў, хіба толькі што... Але дадзім слова самому Тарасевічу: «Пазьней, калі паўстала пытаньне, дзе ісьці, я, набраўшыся адвагі, заявіў, што не хачу ісьці ні на ваенную, ні на гражданскую службу і што ядынае мае жаданьне заўсім аддадца музыцэ. Бацькі (апекуны. — **В.С.**) доўга не згаджаліся, але ўрэшце мне ўдалося настаяць на сваём. Сямнаццаці лет я паступіў у Пецярбургскую кансерваторыю. Раз патупіўшыся на маё жаданьне, бацькі не шкадавалі грошай на маю музычную навуку».

### Пецярбург

На фартэпіянным факультэце Пецярбургскай кансерваторыі Ян Тарасевіч вучыўся спачатку ў класе прафесара М. Абрамычава (у 1903 годзе), а потым — у класе прафесара М. Быстрова. Тэарэтычныя заняткі вёў прафесар А. Глазуноў. Першую ступень навучання Тарасевіч закончыў выкананнем Чацвёртага фартэпіяннага канцэрта А. Рубінштэйна. Прафесар Быстроў тады ж запрасіў Яна выкладаць у сваёй прыватнай школе. Гэта быў пачатак той дзейнасці, якой Тарасевіч прысвяціў жыццё. У школе Быстрова ён выкладаў да прызыву на вайсковую службу падчас першай сусветнай вайны. Адначасова ў 1912 годзе, пасля заканчэння кансерваторыі, відаць, не без уздзеяння А. Глазунова, зноў паступае ў яе — на гэты раз на кампазітарскае аддзяленне. І тлумачыў так: «У 1912 г. я скончыў курс па класе раяля і тагды ўжо, маючы многа знакомых і нават прыяцелей-прафесароў, свабодна мог заняцца ізучэньнем гісторыі музыкі і кампазыцыяй. У гэтым кірунку я вучыўся і працаваў аж да таго часу, калі быў прызваны на ваенную службу (у 1915 г.). Сам жа я зачаў пісаць невялічкія музычныя творы яшчэ многа раней».

Беларускі фальклор цікавіў пецярбургскіх кампазітараў здаўна. Можа, адной з прычын таго быў даволі моцны ўплыў аўтарытэтных у свой час Восіпа Казлоўскага, Антона Абрамовіча, нарэшце, Міхаіла Глінкі. Прынамсі, і ў гуртку Мілія Балакірава ведалі і выкарыстоўвалі ў творчасці беларускі фальклор.

Па сутнасці, Пецярбургская кансерваторыя з'явілася тым цэнтрам, дзе пачыналася жыццё многіх нацыянальных музычных школ. Пачынальнікамі іх сталі ў большасці выпадкаў вучні Рымскага-Корсакава: М. Лысенка (Украіна), Я. Віталь (Латвія), А. Капп (Эстонія), А. Спендзіяраў (Арменія), А. Баланчывадзэ (Грузія) і інш.

Зацікаўленне непасрэдных педагогаў Тарасевіча беларускім фальклорам выявілася, напрыклад, у А. Глазунова. Запісаны ім у Друскеніках беларускі народны танец ён выкарыстаў у трыо Першай сімфоніі. А пра Іосіфа Іванавіча Віталя (так звалі ў Расіі прафесара кафедры кампазіцыі Пецярбургскай кансерваторыі) Тарасевіч зазначыў: «У астатнія два года перад вайной, паддаўшыся ўплыву праф. І. Віталя, я ўглыбіўся ў нашу нацыянальную музыку. У гэтым кірунку працую і да сягоньня».

Пашыраецца кола знаёмых Тарасевіча. Талент бліскучага піяніста і кампазітара, які падае добрыя надзеі, звярнуў на сябе ўвагу буйнейшых музычных дзеячаў, такіх як Сяргей Рахманінаў і Ян Сібеліус. Выдавецтва Юргенсона друкуе творы Тарасевіча для фартэпіяна, з якіх асабліва ўражвае Прэлюдыя і таката.

Малады таленавіты музыкант, гады вучобы якога прыйшліся на перыяд рэвалюцыйнага і нацыянальнага ўздыму, не мог не трапіць у поле зроку беларускіх нацыянальных колаў у Пецярбургу. Ёсць усе падставы лічыць, што менавіта падчас вучобы ў кансерваторыі Тарасевіч пазнаёміўся з Вацлавам Іваноўскім — лідэрам Сацыялістычнай партыі Беларусі, фактычным лідэрам выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», на той час — дацэнтам Тэхналагічнага інстытута ў Пецярбургу.

У 1915 годзе Тарасевіч быў прызваны на вайсковую службу і адпраўлены на фронт. Сын афіцэра, які і сам меў вайсковую адукацыю (скончыў, як памятаем, Полацкі кадэцкі корпус), Тарасевіч не хаваўся за спіны баявых таварышаў. У баях праявіў сябе храбрым ваяром, атрымаў раненне, за што быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам. Кастрычніцкі пераварот быццам бы спыніў вайну (як аказалася — ненадоўга), і Тарасевіч вяртаецца, нарэшце, дадому, у маёнтак Шындзель, уладаром якога ён стаў згодна з завяшчаннем апекуноў — дзядзькі і цёткі Улазоўскіх.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

*(Заканчэнне будзе).*

# ПЁТР МАГІЛА І ЯГОНЫЯ ПАСЛЯДОЎНІКІ,

## альбо СТАРАБЕЛАРУСКІ ЎПЛЫЎ НА РАСІЙСКУЮ КУЛЬТУРУ

На канец XVI — XVII ст. прыпадае перыяд складаных унутраных супярэчнасцей аб'яднання дзяржавы Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага, што было абумоўлена шматлікімі гаспадарча-палітычнымі і рэлігійна-культурнымі памылкамі.

Светачам веры, які вывеў духоўнае жыццё дзяржавы з перыяду працяглага заняпаду і антынамічных катаклізмаў, стаў сын малдаўскага гаспадара (каралякнязя) Сімяона, прадстаўнік беларуска-польскай княжацкай дынастыі, ваявода, а пазней — мітрапаліт Пётр Магіла. Адраджэнне бацькоўскай веры мітрапаліт пачаў са стварэння рэлігійна-асветніцкага асяродку з лепшых вучняў брацкіх вучылішчаў, якіх накіроўваў для атрымання ўсебаковай вышэйшай адукацыі ў лепшыя акадэміі і універсітэты Еўропы. З іх кагорты і выйшлі выкладчыкі знакамітай Кіеўскай калегіі, папярэдніцы славутай Кіева-Магілянскай Духоўнай Акадэміі, светачы старабеларускага Адраджэння на палескіх землях у XVII ст.

Справай жыцця П.Бярынды, што і прынесла яму не толькі агульнаеўрапейскую, але і сусветную вядомасць і славу, была падрыхтоўка (30 гадоў) "Лексікона славенароскага і імёнаў талкавання", які быў коштам аўтара выдадзены ў 1627 г. у Кіева-Пячэрскай Лаўры. Да апошніх імгненняў свайго жыцця 23 (13) ліпеня 1632 г. Памва Бярында працаваў над падрыхтоўкай новай рэдакцыі царкоўнаславянскай Бібліі, лексічным падмуркам якой і з'яўляўся "Лексікон". Ідэя стварэння новага перакладу Бібліі была і мэтай падзвіжніцкай навукова-асветніцкай дзейнасці Епіфанія Славінецкага. Епіфаній здолеў толькі перакласці Новы Запавет і Пяцікніжжа, заўчасны адыход спыніў яго працу. Вынікам плённых і напружаных пошукаў Епіфанія Славінецкага ў галіне тэорыі дакладнага перакладу стала ўкладанне царкоўных і богаслужбовых кніг, упарадкаванне і выпраўленне існуючых агіяграфічных твораў, стварэнне, напісанне і прамаўленне казаняў, заснаванне тэарэтычнай і крытычнай школ у гамілетыцы. У 1640 г. славуты рэфарматар сістэмы адукацыі ВКЛ і РП Пётр Магіла прапануе аказаць дапамогу аднапляменнаму расійскаму цару Міхаілу Фёдаравічу ў наладжванні сістэмы адукацыі, каб братчыкі з беларускіх і ўкраінскіх зямель "детей боярскихъ и простого сана грамоте греческой и словянской учили". Такім чынам, асветніцкая хваля духоўнага Адраджэння прыпадае на эпоху дзейнасці св.мітрапаліта Пятра Магілы і яго паслядоўнікаў. І калі Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Нікан вырашыў правесці выпраўленне багаслоўскіх кніг, то духоўныя і свецкія ўлады Масковії прасілі накіраваць у суседнюю праваслаўную дзяржаву вучоных-манахаў з зямель ВКЛ. Па блаславенні мітрапаліта ад'язджаюць дзве групы перакладчыкаў, у складзе якіх былі Епіфаній Славінецкі (ён узначаліў грэка-лацінскую школу ў Чудавым манастыры) і славуты вучоны, паэт, драматург і гамілет Сімяон Полацкі (ён у 1665 г. узначаліў школу ў Заіканаспаскім манастыры), аўтар перакладнога польска-старабеларускага царкоўнаславянскага слоўніка, створанага для абслугоўвання патрэбаў новага перакладу Бібліі. Зазначым, што старабеларускі ўплыў на расійскую культуру быў настолькі моцным, што лёг у падмурак сучаснай моўнай і рэлігійна-культурнай традыцыі, таму некаторыя даследчыкі называюць яго III паўднёваславянскім і II беларускім уплывам.

Данііл Савіч Туптала, святіцель, мітрапаліт Дзімітрый Растоўскі, буйны царкоўны пісьменнік, славуты агіёграф, прапаведнік, асветнік, палеміст, драматург, паэт, рэфарматар сістэмы царкоўнага навучання, радавод якога меў карані ў палеска-ліцвіна-малдоўскай этнічнай еднасці, да якой належала маці пісьменніка і хроснаўспрыемніца, жонка ваяводы Януша Радзівіла, малдоўская князёўна, сястра жонкі Цімафея Хмяльніцкага (дарэчы, збяднелага беларускага шляхціча), у чэрвені 1677 г. наведвае Навадворскі манастыр на Піншчыне для ўшанавання цудадзейнага абраза Прасвятой Багародзіцы, напісанага яшчэ св.мітрапалітам Пятром. Там інак знаёміцца з беларускім епіскапам Феадосіем і ігуменам Віленскага Свята-Духава манастыра Кліментам. Завяршэнне фарміравання агіяграфічнага старабеларускага канона таксама адбывалася ў XVII ст., для дагматычных удакладненняў мітрапалітам Пятром Магілаю нават былі выпісаны з Афонскай Гары жыціі Сімяона Метафраста. Пасля адыходу падзвіжніка-мітрапаліта славуты старабеларускі пісьменнік і багаслоў Інакенцій Гізель, архімандрыт Кіева-Пячэрскай Лаўры, ліцвін-прус па паходжанні, узбагаціў старабеларускі звод, але ваеннае ліхалецце не дазволіла яму завяршыць гэтую святую справу. Гонар стварэння жыцій старабеларускай школы належыць златавусту XVII ст. на землях ВКЛ, які падвізаўся ў храмах Пінска, Слуцка, Вільні, Густынскім манастыры, свяціцелю Дзмітрыю Растоўскаму. Па сведчанні беларускага епіскапа Феадосія Васілевіча, менавіта пасля паломніцтва да Навадворскай і Віленскай Адзігітрыі інак Дзмітрый адчуў сябе ў стане выканаць гэтую святую справу, якой аддаў 20 гадоў жыцця.

Сярод святыняў, якія былі сапраўднымі апекунамі Палесся, Холмскай, Пружанскай, Ляснянскай, Дубенскай (родавай іконай князёў Астрожскіх), асабліва ўшаноўваецца вернікамі Купяціцкая ікона-крыж Прасвятой Багародзіцы. Купяціцкая цудадзейная ікона належыць да вельмі старажытнага іканаграфічнага тыпу, у якім сумяшчаюцца рысы Адзігітрыі з сюжэтным фонам і фактураю Укрыжавання. Святыня была яўлена ў 1182 г. на дрэве каля ракі Ясельда дзяўчынцы Ганне. У 1629 г. пры Купяціцкай царкве быў заснаваны мужчынскі манастыр. Лазар Баранавіч, архіепіскап Чарнігаўскі і Ноўгарад-Северскі, месцаблюсціцель Кафедры Мітрапалітаў Кіеўскіх, выдатны беларускі пісьменнік, ініцыятыўны і энергічны арганізатар, генератар ідэй навукова-культурнага і грамадска-палітычнага жыцця праваслаўнага насельніцтва ВКЛ і РП XVII ст., па словах свяціцеля Дзімітрыя Растоўскага, "вялікі стоўп царквы", з 1652 г. быў архімандрытам Купяціцкім і Дзятлавіцкага (Дзятлаўскага) манастыроў, адраджаў рэлігійна-культурнае жыццё на Палессі. Яму належыць гонар наноў атрымання, захавання і праслаўлення Купяціцкага абраза Божай Маці, які архімандрыт у 1655 — пач. 1656 г. перавозіць з Пінска (з-за падзей вайны) у Кіеў і змяшчае ў Сафійскім саборы, як сімвал бацькоўскай веры, асноўную святыню не толькі беларусаў-палешукоў, але і ўсіх праваслаўных ВКЛ і РП. Іаанікій Галятоўскі, найбуйнейшы старабеларускі пісьменнік другой паловы XVII ст., тэарэтык гамілетыкі і красамоўства, заснавальнік марыялагічнай традыцыі ва ўсходнеславянскай і балгара-румынскай кніжнасці, бліскучы рытар і экзэгет, Рэктар Кіева-Магілянскай Духоўнай Акадэміі, архімандрыт Ноўгарад-Северскага, Чарнігаўскага Успенскага Ялецкага манастыра, які прыняў пострыг у Купяціцкім манастыры і пасля быў яго настаяцелем, усё жыццё ўшаноўваў Купяціцкую Адзігітрыю за дапамогу і ўладкаванне яго маладосці, пра яе пісаў у кнігах "Неба новае з новымі зорамі створанае" (1665, 1677, 1699, 1849, 1851, 1997) і "Скарбніца пажытачная" (1676). Асаблівую ролю адыграла Купяціцкая святыня ў жыцці Афанасія Берасцейскага, якая тройчы явілася яму і прадказала шлях дзеяння. Менавіта Афанасій Філіповіч падараваў копію гэтай цудадзейнай іконы як згадванне пра беларускія карані першаму цару дынастыі Раманавых Міхаілу Фёдаравічу. Праваслаўныя вернікі, асабліва з палескіх зямель, спрадвеку шанавалі гэтую святыню і заўсёды звярталіся да яе за падтрымкай і дапамогай.

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**



Сімяон Полацкі.



ЛѢѮІКОНЪ,
славенороссскій,
и́менъ толкованіе,

"Лексікон" П.Бярынды (тытульны ліст). 1653.



Пінск у 17 ст.



# "...ЁН ПРЫГАЖОСЦЮ ГАТЫЧНАЙ СТАРТУЕ Ў ВЫСОКІ БЛАКІТ"

*(Храму Святой Тройцы ў Ішкалдзі — 525 гадоў з дня асвячэння)*

Іван Абрамовіч, былы працаўнік культуры ў раёне, а зараз такі ж апантаны "культурнік" на Баранавіцкім станкабудаўнічым заводзе, бачыў гэты храм з маленства.

Я ж жыў доўгім прадчуваннем сустрэчы шмат гадоў. І вось мы вырашылі разам з Абрамовічам зрабіць падарожжа — па Цуд...

І абодва мы з аднолькавай цікавасцю чыталі ў аўтара славутай рускай песні "...Когда я на почте служил ямщиком..." (пераклад Л.Трэфалева), нашага слыннага суайчынніка Уладзіслава Сыракомлі вось гэтыя радкі ў яго творы "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах": "Пасля б мы аглядзелі ў мястэчку Ішкалдзь стары, несумненна, перароблены з язычніцкай святыні парафіяльны каталіцкі касцёл, які ў XVI стагоддзі быў арыянскім саборам".

Так, адзін з самых старажытных каталіцкіх храмаў на тэрыторыі Беларусі — Троіцкі касцёл у вёсцы Ішкалдзь Петкавіцкага сельсавета. На сёння вядомы толькі тры першыя касцёлы, што захаваліся на Беларусі з XV стагоддзя — у вёсцы Уселюб на Гродзеншчыне, у Ішкалдзі на Брэстчыне і ў гарадскім пасёлку Іўі, што зноў на той жа Гродзеншчыне.

Ды Троіцкі касцёл і праз стагоддзі змог знешне застацца амаль такім жа, як і пры сваім удалым асілкавым нараджэнні. Несумненна — гэта незвычайная з'ява для Беларусі.

Незабыўныя малюнкі Троіцкага касцёла ў XIX ст. назаўсёды пакінуў для нашчадкаў вялікі беларускі мастак Напалеон Орда. А наўздагон яму такую ж вядомую акварэль зрабіў у другой палове XIX стагоддзя мастак Э.Паўловіч.

Ёсць у гэтага культавага будынка свая адметнасць: ён пабудаваны на месцы язычніцкага капішча. Дзве ўзвышанасці (адна большая, другая меншая) у свой час уздымаліся над мястэчкам Ішкалдзь. Больш высокую з іх звалі за непаўторны жаваранкаў пошчак Жаўруковай гарой. Паводле паданняў, на вяршыні яе стаяла старажытная праваслаўная царква, а насупраць, на меншай, — знаходзілася язычніцкае капішча.

Колькі слоў пра апошняе — паспрабуем перанесціся ў тыя далёкія гады. На меншай гары рос дуб — велічэзны, стары, у некалькі абхватаў. Вакол яго была добра ўтаптаная і расчышчаная пляцоўка, якую з трох бакоў акружаў шчыльны тын з розных галінак, абмазаны глінай. З аднаго боку дрэва — вечнае вогнішча, а побач камень. Якраз каля гэтага дуба, вогнішча і каменя і рабіліся ахвяраванні, у тым ліку і чалавечыя...

Тады Ішкалдзь, як і Уселюб, належала Мікалаю Неміровічу. Ён быў з тых першых беларусаў, якія здрадзілі сваёй мове, звычкам і перайшлі з праваслаўя ў каталіцызм.

Як піша выдатны беларускі прапагандыст дойлідства А.М.-Кушнярэвіч: "Выяўленыя А.Ярашэвічам у жыццяпісах віленскіх біскупаў звесткі сведчаць, што М.Неміровіч пабудаваў у Ішкалдзі мураваны касцёл, асвечаны ў 1471 г.". Пра тое ж сведчаць і іншыя даследчыкі... Але мы будзем пакуль датаваць пабудову Ішкалдзьскага касцёла, як пра гэта пішуць нашыя энцыклапедыі — 1472 годам. Таму менавіта ў гэтым годзе якраз спаўняецца 5 стагоддзяў і 25 гадоў, як стаў працаваць пабудаваны на беларускай зямлі гэты вабны каталіцкі гмах.

М.Неміровіч жорстка аднёсся да веры сваіх продкаў — праваслаўны храм быў разбураны, а каб нічога не згадвала пра яго, рэшткі былі засыпаны зямлёй. Па тых жа паданнях, мясцовы поп быў атручаны. Калі ён паміраў, дык ён лаяў Неміровіча і гучна крычаў, што Бог не дасць яму жыцця... Спалоханы Мікалай Неміровіч прыбег да святара, але было позна... І на дзіва хутка сапраўды прыйшла па яго смерць...

Але перад тым Неміровіч сам прыглядзеў пляцоўку пад будаўніцтва касцёла — на месцы капішча дуб быў павалены, тын разабраны, камень разбіты...

Другое ж знішчэнне рэштак былой царквы адбылося каля двух дзесяткаў гадоў таму пры скапанні Жаўруковай гары, зямля якой спатрэбілася для дамбы. Рэшткі зніклі, а каб ніхто пра гэта не даведаўся, кіраўнікі парупіліся, каб у людзей раты былі на добрым замку.

Нам невядомы сёння ні дойлід, ні будаўнікі касцёла Святой Тройцы — гэта такая афіцыйная першая назва храма. Але несумненна тое, што рабілі яго мясцовыя жыхары.

Мяняліся ўладальнікі мястэчка, улады — кожны з іх прыстасоўваў касцёл Святой Тройцы для сваіх патрэб. А местачкоўцы, як тыя паслухмяныя авечкі, ішлі за сваімі павадырамі. Услед за Неміровічамі мястэчкам валодалі Іллінічы (гэта адзін з іх заклаў замак у Міры — перліну беларускай архітэктуры), Радзівілы, Вітгенштэйны і менш славутыя магнаты. Па гістарычных звестках, з другой паловы XVI стагоддзя гэтым касцёлам валодалі кальвіністы. Але, па адных крыніцах, ён быў зноў перададзены каталікам у 1640 годзе, па іншых — 1641. Шмат пазней, пасля падзелу Рэчы Паспалітай касцёл у Ішкалдзі ўлады ў 1866 (1868) годзе перадалі ў веданне праваслаўнай епархіі, канешне, перад гэтым яго пераасвяцілі. З захопам Беларусі панскай Польшчай гэты касцёл у трэці раз гвалтам быў перададзены каталікам... Давайце ўслед за энцыклапедыямі, архітэктарамі і апісальнікамі ўзновім тое, што сёння ўяўляе касцёл Святой Тройцы.

Я і Іван Абрамовіч былі ў розных краінах, у розных кутках Беларусі і вымушаны адзначыць, што аналагаў Ішкалдзьскаму касцёлу ні ў свеце, ні на Беларусі няма. Калі паглядзець на храм Святой Тройцы, дык нечым ён нагадвае і невялікую крэпасць. Агульная даўжыня яго 26,4 метры, а шырыня ў два разы меншая —13,5 м. У яго адзінкавасці і непадобнасці ёсць нешта загадкавае і таямнічае. І таму вакол яго ходзіць шмат паданняў. Адно з іх нам расказала старэйшая жыхарка Ішкалдзі Ганна Францаўна Абрамовіч, якая пры ўсіх уладах, якія ў нашым стагоддзі так часта мяняліся ў гэтым краі, зберагала і гэты храм, і скарбы, якія знаходзяцца ў ім. Але аб апошніх раскопках крышачку ніжэй. Адзін з аповедаў гэтай працавітай, паважанай і баявой на язык і дзеянні жанчыны — пра падземны ход, які нібыта меў некалькі адгалінаванняў і адно з іх прама вяло ў панскі двор. Гэты двор вядомы з самых першых датаваных інвентароў за 1579 год. Ён тады ўключаў у сябе двор, дварок і гумнішча. Побач з імі на прытоцы ракі Ушы стаялі два панскія млыны. Левы бок ад касцёльных варот да дварковай брамы ўключаў 2 жылыя будынкі, кухню, 2 свіраны, бровар і саладзільню; супрацьлеглы — трэці жылы дом і мураваны склеп. Дык вось, Ганна Францаўна сцвярджае, як і шмат іншых жыхароў, што такі падземны ход існаваў здавён і што яна заклала яго ў 1946 годзе.

Разам з Іванам Абрамовічам мы доўга раздумвалі — касцёл Святой Тройцы і сам панскі двор добра апісаны ў гістарычных дакументах-інвентарах. Але нідзе — падкрэсліваю — нідзе няма ніякага ўпамінку пра гэты падземны ход і яго адгалінаванні. Каб ён быў, дык той жа Уладзіслаў Сыракомля, мабыць, абавязкова апісаў бы яго. Адгадка тут можа быць простая. І ў сядзібе, і ў касцёле былі свае хады-схаванні, бо няшчасці, як тыя камяні, густа сыпаліся на гэты гаротны край. Жыхары вымушаны былі ад сваіх дамоў рабіць хады-схаванні. Але ці былі яны паміж касцёлам і маёнткам — сёння цяжка сказаць, нават нягледзячы на сведчанні такога паважанага чалавека, як Ганна Францаўна Абрамовіч. Трэба праводзіць практычныя даследаванні і раскопкі, бо яшчэ казалі местачкоўцы, што ў іх у першую сусветную вайну хаваліся як ваяры, так і мясцовыя людзі, і знаходзілася там шмат зброі.

А вось пра кніжны скарб у касцёле Ганна Францаўна гаварыла з асаблівым гонарам. Па яе словах, там знаходзяцца кнігі аж з XVII стагоддзя. Прычым, як кажуць тыя ж мясцовыя жыхары, частка з іх, найбольш каштоўных, знікла немаведама куды. Але паглядзець на гэты кніжны скарб нам не давялося, бо некуды на гэты час ад'ехаў пробашч.

Кнігі, кніжныя скарбы! Што цікава, сёння з Ішкалдзю амаль зліваецца другая вёска — Петкавічы (сельсавет). А як сведчаць маскоўскія вучоныя Лукомскі і Неміроўскі, сляды першага рускага і ўкраінскага друкара Івана Фёдарава (Федаровіча) з гэтага паселішча вядуць у сталіцу Маскоўскай Русі, а таксама ў Заблудаў, Львоў, Астрог. Недалёка адсюль, у Пенчыне, нарадзіўся яшчэ адзін славуты сын нашай зямлі Андрэй Рымша, які 5 мая 1581 года ў Астрозе ў свайго земляка Івана Фёдарава надрукаваў першы царкоўны каляндар у свеце ўсходніх славян, так званую "Храналогію" ("Которого ся месяца што за старых веков деело короткое списание"). Вось так і зліваюцца ў адно вялікія імёны і славутыя помнікі дойлідства: Н.Орда, Э.Паўловіч, У.Сыракомля (Л.Кандратовіч), І.Фёдараў (І.Федаровіч), А.Рымша і касцёл Святой Тройцы ў Ішкалдзі.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства**
*Баранавічы*
**Фота Уладзіміра ЯКАВЕНКІ**

К КУЛЬТУРА
ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ

ЗАМЕСТ КРОПКІ

80 гадоў таму адбыўся кастрычніцкі пераварот, які пазней з лёгкай рукі Троцкага пафасна назвалі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй.

Вызначальная дата не толькі ў гісторыі Расіі, але і ўсяго свету. Спрачацца няма чаго. Іншае пытанне, што прынёс Кастрычнік самой Расіі: новае жыццё альбо новую няволю? Тут пачынаюцца жорсткія спрэчкі. Некаму абсалютна зразумела: Кастрычнік — гэта зло. Іншыя раз'юшана сцвярджаюць, што Кастрычнік — дабро. Але горкія факты пацвярджаюць: рэвалюцыя вынішчыла лепшыя сілы грамадства — дваран, сялян, мастацкую і навуковую інтэлігенцыю, рэлігійных дзеячаў, рэзка знізіла маральнасць народа.

Ад вялікага да смешнага, як вядома, адзін крок. Ленін ненавідзеў інтэлігенцыю ва ўсіх яе іпастасях. А яна, нібы класічны раб, плаціла яму сабачай адданасцю: свой талент, дадзены ёй прыродай, лепшыя свае сілы "стваральнікі цудоўнага" аддалі ўвасабленню вобраза Ільіча і ягонай справе ў жывапісе і скульптуры, графіцы і мазаіцы. А некаторыя мастакі прысвяцілі гэтай справе і ўсё сваё жыццё...

"Не ствары сабе куміра", — гаворыцца ў Бібліі. Стварылі.

Скажам, як "апісвалі" гэтую самую рэвалюцыю і яе лідэраў нашы сучасныя мастакі-інтэлектуалы? Мы прадэманструем некалькі найбольш папулярных у свой час узораў твораў выяўленчага мастацтва, напісаных у рамках "паглыблення" і "пашырэння" так званай гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы. У нас няма і намёку на нейкі здзек, абвінавачванне майстроў пэндзля і разца ў "канфармізме" і да т.п., але што здарылася — тое здарылася. Мы верылі ва ўсё гэта: так нас выхоўвалі...

**Б.К.**

# НЕ СТВОРЫМ САБЕ КУМІРАЎ...

Працытую выказванне рускага філосафа Георгія Фядотава: "Людзі кастрычніка... у сваёй бязмежнай амаральнасці адчынілі шлюзы нізкім страсцям... Ленін ненавідзеў інтэлігенцыю больш страснай нянавісцю, чым капіталізм і манархію. Ён павінен быў шукаць сабе падтрымку сярод людзей напалову культурных, нават напалову пісьменных: сярод Зіноўевых і Сталіных..."











Знаходжанне У.І. Леніна у Разліве, яго напружаная рэвалюцыйная дзейнасць у барацьбе за будучыню Расіі, [illegible] думы аб завяршэнні [illegible] барацьбы, у цэнтры якой [illegible] Ільіч — заўсёды хвалявала [illegible] як мастака

[illegible]

## Рэвалюцыйныя МАСТЫРХІН















1. У.Стальмашонак. "Ленін на станцыі "Мінск".
2. П.Крахалёў. "На Марсавым полі".
3. С.Федарэнка. "Поле рэвалюцыі".
4. Л.Асядоўскі. "25-га, першы дзень".
5. М.Данцыг. "Ленінская "Искра".
6. В.Шаранговіч. "Напярэдадні". Ілюстрацыя да паэмы У.Маякоўскага "Уладзімір Ільіч Ленін".
7. К.Касмачоў. Фрагмент карціны "Ленін у Разліве".
8. З.Азгур. "Ленін з дзяўчынкай".
9. А.Шыбнёў. "З Леніным".
10. В.Яўсееў. "ІІ з'езд РСДРП".
11. М.Савіцкі. "Аднадушнасць".
12. М.Манасзон. "І з'езд РСДРП".

К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ГЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4091.

Падпісана ў свет 5.11.97. у 18.00.

Замова 6567

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**